**КАМУНІСТЫЧНАЯ ПАРТЫЯ ПОЛЬШЧЫ.**
(Сэкцыя Камуністычнага Інтэрнацыяналу).



**Пралетарыі ўсіх краёў, злучайцеся!**

# ПАРТРАБОТНІК

**ОРГАН ЦК КАМУНІСТЫЧНАЙ ПАРТЫІ ЗАХОДНЯЙ БЕЛАРУСІ**

**№ 1** | ВІЛЬНЯ, СТУДЗЕНЬ 1933 г. | **Цана 20 гр.**

## ЗЬМЕСТ:



## VI Зьезд Камуністычнай партыі Польшчы

У лістападзе м. г. адбыўся VI Зьезд Камуністычнай партыі Польшчы. На зьезьдзе было 33 дэлегаты з рашаючым голасам і 36 з дарадчым. Былі прадстаўлены ўсе партыйныя акругі (за выняткам двух), а таксама камуністычныя партыі Зах. Украіны і Зах. Беларусі і Саюз Камуністычнай Моладзі. Сярод дэлегатаў з дарадчым голасам, апрача членаў ЦК КПП, былі таксама прадстаўнікі больш важных аддзелаў ЦК. На парадку дня былі наступныя справы: 1) ацэнка палітычнай сытуацыі і задачы партыі, 2) задачы КПП у барацьбе з польскім імпэрыялізмам і нацыянальным уціскам, 3) прыняцьце праграмы партыі.

VI Зьезд, які адбыўся неўзабаве па XII пленуме Выканкому Камінтэрну, далучыўся да пастаноў гэтага пленуму і сканкрэтызаваў іх у прыстасаваньні да варункаў Польшчы.

VI Зьезд падсумаваў вялізарны досьлед, які здабыла партыя ў няўпынных баёх пралетарыяту, сялянства і паняволеных народаў на працягу двух год ад V зьезду. VI Зьезд, які адбываўся ў пэрыяд нябывалага абвастрэньня гаспадарчага крызысу, нарастаньня буйных клясавых баёў, у пэрыяд беспасрэднага падыходу Польшчы да рэвалюцыйнага крызысу, даў стратэгічныя і тактычныя ўказаньні да далейшага разьвіцьця барацьбы, да падвядзеньня масаў да рашаючых баёў за ўладу, за дыктатуру пралетарыяту.

VI Зьездд выканаў вялікай важнасьці дзела, ухвальваючы праграму партыі. Прыняўшы праэкт праграмы, апрацаваны праз Праграмную Камісію на падставе рэзалюцыі V зьезду, VI Зьезд даручыў Цэнтральнаму Камітэту рэдакцыю аканчальнага тэксту праграмы, з прыняцьцем пад увагу вынікаў дыскусіі.

**У СУЧАСНЫ ПЭРЫЯД НАЙБОЛЬШ НЕБЯСЬПЕЧНЫМ ЗЬЯЎЛЯЕЦЦА ТЭНДЭНЦЫЯ ПРАЙСЬЦІ КАВАЛАК ШЛЯХУ З САЦЫЯЛ-ФАШЫСТОЎСКІМІ ПАРТЫЯМІ, ЯК НІБЫ ЧАСОВЫМ САЮЗЬНІКАМ, АЛЬБО ЛЕГАЛЬНЫМ ПРЫКРЫЦЬЦЁМ. ГЭТАЯ ТЭНДЭНЦЫЯ, ЯКАЯ ВЫЯЎЛЯЕЦЦА Ў НЕКАТОРЫХ ЗЬВЕНЬНЯЎ ПАРТЫІ, КАЖА АБ АДСТУПЛЕНЬНІ ПЕРАД УЗРАСТАЮЧЫМІ ТРУДНАСЬЦЯМІ Ў АРГАНІЗАВАНЬНІ КЛЯСАВЫХ БАЁЎ І ВАЛАЧЭНЬНЕ Ў ХВАСЬЦЕ ППС. (VI Зьезд КПП).**

# VI Пленум ЦК Кампартыі Зах. Беларусі

VI Зьезд выказаў поўнае адзінства Партыі, канчатковую ліквідацыю бьўшых фракцыйных перагародак на падставе рашучай барацьбы з правай групай, з усялякімі ўхіламі ад лініі партыі і Камінтэрну, на падставе бальшавіцкага зьнітаваньня ўсяе партыі навакола яе кіраўніцтва.

Апрача рэзалюцыяў да пунктаў парадку дня Зьезд прыняў спэцыяльныя рэзалюцыі пратэсту супроць зачыненьня Сельробу-Еднасьці на Зах. Украіне і супроць фашыстоўскага суду над рэвалюцыйнымі салдатамі польскае арміі ў Вільні.

Зьезд выслаў прывітаньні да Камінтэрну, да ВКП(б), да Чырвонае Арміі, да Выканаўчага Камітэту МОПР'у і да палітычных вязьняў.

VI ПЛЕНУМ ЦК КПЗБ.

У лістападзе таксама адбыўся VI пашыраны пленум ЦК КПЗБ. На пленуме апрача членаў ЦК былі прадстаўнікі КСМ, шэрагу акругоў і аддзелаў. На парадку дня VI Пленуму стаялі наступныя пытаньні: 1) сытуацыя і задачы партыі, 2) характар рэвалюцыі на Зах. Беларусі і 3) барацьба супроць вайны і праца ў арміі. Апрача таго працаваў шэраг камісій (досьлед эканамічных баёў, праца на вёсцы, задачы партыі ў нацыянальна-вызваленчым руху, аб працы КСМ), якія зрабілі на пленуме справаздачу са сваіх прац. Па ўсіх гэтых пытаньнях Пленум прыняў асобныя рэзалюцыі.

Падставовай задачай VI пленуму было падсумаваньне досьледу працы нашай партыі за апошні год і сканкрэтызаваньне задач, згодна з лініяй XII пленуму ВККІ і VI Зьезду КПП. Пленум асаблівую ўвагу зьвярнуў на слабыя вучасткі ў працы нашае партыі, прычыны гэтай слабасьці і шляхі да іх перамажэньня.

На спэцыяльную ўвагу заслугоўвае пастаноўка пытаньня аб характары рэвалюцыі на Зах. Беларусі, што мае першараднае значэньне для падвядзеньня моцных падстаў для стратэгіі і тактыкі нашай партыі ў такі адказны пэрыяд, калі партыя наша зьбліжаецца да беспасрэдных баёў за ўладу.

Пленум апрача прынятых рэзалюцый зьвярнуўся з заклікам да ўсіх працоўных масаў Зах. Беларусі, у якім папулярна разгортывае перад масамі рэвалюцыйны шлях выхаду з крызысу, акрэсьлівае падставовыя задачы нашай партыі ў набліжаючайся рэвалюцыі.

Пленум цалкам і поўнасьцю прызнаў правільнасьць лініі ЦК КПП і рашуча асудзіў вылазкі трацкісцка-костжэвісцкіх элемэнтаў, што знайшло свой выраз у асобна прынятай рэзалюцыі.

## АБ ПРАВЯДЗЕНЬНІ СПРАВАЗДАЎЧАЙ КАМПАНІІ АБ VI ЗЕЬДЗЕ КПП І VI ПЛЕНУМЕ ЦК КАМПАРТЫІ ЗАХОДНЯЙ БЕЛАРУСІ

VI зьезд распрацаваў падставовыя задачы партыі ў надзвычай адказны момант, калі Польшча шчыльна падыходзе да рэвалюцыйнага крызысу, калі партыя павінна ў паскораным тэмпе рыхтаваць свае шэрагі да падвядзеньня масаў да рашаючых баёў за ўладу. VI пленум ЦК КПЗБ сканкрэтызаваў гэтыя задачы адпаведна да спэцыфічных умоваў Зах. Беларусі. Прысваеньне гэтых рашэньняў усімі зьвеньнямі і ўсімі членамі нашае партыі і неадкладнае правядзеньне іх у жыцьцё маюць рашаючае значэньне для разьвіцьця рэвалюцыйнага руху ў Польшчы і Зах. Бел. Дзеля гэтага ўсе партарганізацыі павінны распачаць неадкладнае правядзеньне справаздаўчай кампаніі аб VI зьезьдзе і VI пленуме ЦК КПЗБ, што зьяўляецца падставовай унутрыпартыйнай задачай на бліжэйшы пэрыяд.

Слабае альбо спозьненае прысваеньне партыяй рашэньняў яе кіруючых органаў зьяўляецца падставовай прычынай адставаньня партыі, зьяўляецца галоўным чынам тормазам падняцьця яе актыўнасьці. Яркім прыкладам гэтага зьяўляецца спазьненьне з прысваеньнем партыяй рашэньняў V пленуму ЦК КПЗБ, асабліва рашэньняў гэтага пленуму па нацыянальнаму пытаньню, у выніку чаго наша партыя дасюль яшчэ ня зьдзейсьніла павароту ў кіраўніцтве нацыянальна-вызваленчым рухам.

Справаздаўчая пасьлязьездаўская і пасьляпленумская кампанія павінна распачацца са справаздач і абмяркаваньня рашэньняў зьезду і пленуму на ўсіх АК. АК неадклкдана пераносяць іх абмяркаваньне на ГК і РК, а гэтыя апошнія на ячэйкі. Пасьля таго, калі рашэньні зьез-

ду і пленуму будуць абмяркованы на ячэйках трэба распачаць склiканьне раённых, гарадзкiх, а пасьля i акружных партканфэрэнцый.

Абмяркаваньне i прапрацаваньне рашэньняў VI зьезду i VI пленуму павiнны адбывацца ў цеснай увязцы з ацэнкай дзейнасьцi даннай партарганiзацыi i канкрэтным апрацаваньнем выплываючых з рашэньняў зьезду i пленуму задач для дадзенага округа, горад., раёна, ячэйкi. Кожны АК, ГК, РК, ячэйка i адпаведная партканфэрэнцыя павiнны на абмяркаваньнi рашэньняў зьезду i пленуму прыняць рэзалюцыi, у якiх павiнны быць ня толькi выяўлены адносiны да рашэньняў зьезду i пленуму, але таксама намечаны канкрэтныя задачы, выяўлены недахопы i памылкi ў папярэдняй працы накрэсьлены шляхi да зьдзейсьненьня гэтых задач i пакананьня недахопаў i труднасьцяў у працы.

Адначасна з гэтым трэба арганiзаваць шэраг спэцыяльных нарад па паасобных галiнах працы (эканамiчная барацьба i профрух, праца сярод сельска-гаспадарчых рабочых, праца ў армii, нацыянальна-вызваленчы рух, праца на вёсцы, аб КСМ ЗБ, праца сярод яўрэйскiх мас i г. д.), а таксама паставiць абмяркаваньне рашэньняў зьезду i пленуму на камфракцыях масавых арганiзацый.

Iнструктарскi апарат, АК, ГК, РК i ячэйкi павiнны пiльна сачыць за правядзеньнем у жыцьцё рашэньняў зьезду i пленума, а таксама задач намечаных партканфэрэнцыямi, парткамiтэтамi i ячэйкамi, наладзiць строгую праверку i самаправерку рашэньняў. Iнструктары, АК, ГК, РК i ячэйкi павiнны даваць сыстэматычныя справаздачы, як аб ходзе справаздаўчай кампанii, так i правядзеньнi ў жыцьцё прынятых пастановаў.

Для больш дакладнага i паглыбленага прапрацаваньня паасобных проблем, высунутых у рашэньнях зьезду i пленуму, трэба арганiзаваць спэцыяльныя кружкi для прапрацаваньня гэтых рашэньняў i дзеля гэтага вылучыць кружкi рэфэрэнтаў, якiя пад кiраўнiцтвам мясцовых агiтпропаў павiнны падрыхтаваць адпаведныя кадры рэфэрэнтаў для гэтых кружкоў.

Асаблiвую ўвагу трэба зьвярнуць на прапрацаваньне прынятага зьездам праэкту праграмы партыi. Усякiя заўвагi i папраўкi да праэкту партыйнай праграмы павiнны быць надасланы ЦК, для таго каб iх можна было прыняць пад увагу пры канчатковай рэдакцыi праграмы, якую зьезд даручыў ЦК КПП.

Справаздаўчая кампанiя павiнна зьявiцца магутным рычагом для падняцьця актыўнасьцi ўсiх зьвеньняў партыi, падняцьця iдэолёгiчнага ўзроўня партыi i бальшавiцкай загартаванасьцi ўсiх яе членаў, а асаблiва партактыву. У ходзе кампанii трэба ўдзялiць асаблiвую ўвагу выяўленьню i вылучэньню новага партактыву з рабочых i сялянскае бедняты, а ў першую чаргу з рабочых буйных прадпрыемстваў i батракоў. Справаздаўчая кампанiя павiнна зьявiцца рычагом для паляпшэньня мэтадаў кiраўнiцтва, узмацненьня ўнутрыпартыйнай дэмакратыi, узмацненьня калектыўнай працы ў парткамiтэтах i ячэйках, для падняцьця iх палiтычнай iнiцыятывы i самадзейнасьцi.

Пастановы VI зьезду КПП i VI пленуму ЦК КПЗБ павiнны быць даведзены да ведама самых шырокiх мас рабочых i сялян, шырака спапулярызаваны сярод працоўных мас Зах. Беларусi.

Падставовымi матэрыяламi для справаздаўчай кампанii зьяўляюцца: 1) Указаньнi да справаздаўчай кампанii з VI зьезду КПП i VI пленуму ЦК КПЗБ; 2) Рэзалюцыi VI зьезду КПП; а) палiтычная, б) па нацыянальнаму пытаньню; 3) Рэзалюцыi VI пленуму ЦК КПЗБ: а) Сытуацыя i задачы партыi, аб працы КСМ i аб троцкiсцкай апазыцыi, б) Досьлед эканамiчнай барацьбы пралетарыяту i задачы партыi, в) задачы партыi ў нац.-вызваленчым руху, г) аб працы ў вёсцы, д) барацьба супроць вайны i праца ў армii; 4) Праэкт праграмы КПП; 5) Пасьлязьездаўскiя рэзалюцыi ЦК КПП аб задачах у профруху i працы на вёсцы; 6) Манiфэст VI зьезду КПП; 7) Заклiк VI пленуму ЦК КПЗБ; 8) «Новы Пшэглёнд», «Бальшавiк», «Партработнiк» i iнш. бягучая партыйная лiтэратура.

АК, ГК, РК i ячэйкi павiнны дамагацца своечасовага дастарчэньня гэтых матэрыялаў, абясьпячэньня прасоўваньня iх да ячэяк i кожнага члена партыi, павiнны ўзмоцнiць кантролю дзейнасьцi тэхнiчнага апарату, прыцягваючы да жорсткае партыйнае адказнасьцi установы i асобы, якiя зрываюць своечасовую дастаўку зьездаўскiх i пленумаўскiх матэрыялаў партарганiзацыям i ячэйкам.

# На барацьбу супроць новых атак капіталу

**(З ЦЫРКУЛЯРА ЦК КПЗБ)**

Праграма фашыстоўскага выхаду з крызісу з адкрытым і нахабным цынізмам выкладзена прэм'ерам фашыстоўскага ўраду Прыстарам у яго прамове ў Сэнаце. ГАСПАДАРЧАЯ ПРАГРАММА ФАШЫСТОЎСКАЙ ДЫКТАТУРЫ — ГЭТА НОВАЯ РАЗГОРНУТАЯ ЛОБАВАЯ АТАКА НА ПРАЛЕТАРЫЯТ І ПРАЦОЎНЫЯ І ЭКСПЛЁАТАВАНЫЯ МАСЫ СЯЛЯНСТВА.

Прыстар высовывае лёзунг ПАНІЖЭНЬНЯ КОШТАЎ ПРАДУКЦЫІ, а гэта азначае нішто іншае, ЯК ДАЛЕЙШАЕ ШАЛЁНАЕ ЎЗМАЦНЕНЬНЕ ЭКСПЛЁАТАЦЫІ РАБОЧАЕ КЛЯСЫ, ЗЬНІЖЭНЬНЕ ЗАРАБКОВАЙ ПЛАТЫ, ПАВЯЛІЧЭНЬНЕ РАБОЧАГА ДНЯ, ДАЛЕЙШАЕ ЎЗМАЦНЕНЬНЕ ПАТАГОННАЙ РАЦЫЯНАЛІЗАЦЫІ І ПОЎНУЮ ЛІКВІДАЦЫЮ ЗАВАЁЎ РАБОЧАЕ КЛЯСЫ Ў ГАЛІНЕ САЦЫЯЛЬНАГА ЗАБЕСЬПЯЧЭНЬНЯ. У сваёй прамове Прыстор асабліва моцна падкрэсьлівае неабходнасьць ПРАВЯДЗЕНЬНЯ НОВАГА ЗАКОНУ ЛІКВІДАЦЫІ ЗАБЕСЬПЯЧЭНЬНЯ, атака на якое была адбіта пралетарыятам у мінулым годзе шляхам усеагульнай стачкі 16 сакавіка.

Фашыстоўскі плян дапамогі сельскай гаспадарцы цалкам супадае з гаспадарчымі патрэбамі абшарнікаў, распрацаваннымі на зьезьдзе «арганізацый і кулэк рольнічых» і праграмай кулацкіх партыяў, выражанай у рэзалюцыях Галоўнага Савету Строніцтва Людовего. Галоўнае ў гэтай праграме — гэта «падваеньне стараньняў у напрамку зьніжэньня коштаў прадукцыі, як адзіны шлях, які можа прывесьці да рэнтабельнасьці сельскае гаспадаркі». Рэалізацыя гэтай фашыстоўскай праграмы выразілася ўжо ў зрыве прадстаўнікамі абшарнікаў перагавораў аб заключэньні калектыўнага дагавора з сельска-гаспадарчымі рабочымі на 1933-34 г. Сацыял-фашыстоўскія здраднікі ў асобе Квапінскага за плячмі рабочых далі згоду на значнае зьніжэньне зарплаты і другія пагоршаньні ў новым калдагаворы. Але паны абшарнікі згодна з праграмай Прыстара адкінулі нават і гэтыя ўмовы. Абшарнікі з Віленшчыны і Навагрудчыны, на якія не распаўсюджваецца агульны калдогавар, зусім адмовіліся ад абгаварваньня варункаў будучага калдагавора з прадстаўнікамі саюзу сельска-гаспадарчых рабочых, разьлічваючы, што іх інтарэсы будуць цалкам забясьпечаны рашэньнем назначанай урадам Надзвычайнай Арбітражнай Камісіі, імкнучыся да поўнай ліквідацыі закона аб калдагаворах у сельскім гаспадарстве.

Далейшыя захады фашыстоўскага ўраду для «дапамогі сельскаму гаспадарству» выражаюцца ў экспартных прэміях, крэдытах пад закладныя, стварэньні хлебных фондаў шляхам скупаньня дзяржавай хлеба ў абшарнікаў і кулакоў па павышаных цэнах, картэлізацыі сельска-гаспадарчага экспарту. Гэтыя захады ні ў малейшай ступені НЕ АБЛЕГЧАЦЬ СТАНОВІШЧА ГАЛАДУЮЧЫХ МАС СЯЛЯНСКАЙ БЕДНАТЫ І ЗРУЙНАВАНЫХ МАС СЕРАДНЯЦТВА, якія, самі галадуючы, прымушаны будуць прадаваць за бясцэнак свой мізэрны ўраджай спэкулянтам, каб уплачваць узрастаючае ярмо падаткаў, пазык і недаімак. Для іх Прыстор дае толькі адно ўказаньне: прымірыцца з паніжэньнем іх жыцьцёвага зроўня, г. зн. прымірыцца з голадам і руінай. Але затое гэтыя мерапрыемствы ствараць дарагоўлю хлеба ў гарадох, дадуць магчымасьць абшарнікам і буйным хлебным спэкулянтам нажываць шалёныя грошы за кошт шырокіх мас спажыўцоў, нажывацца на экспартных прэміях, якія ўрад будзе выкалачваць шляхам падаткаў з шырокіх працоўных мас.

У галіне падатковай палітыкі фашыстоўская праграма азначае ўзможаны націск на выкалачваньне падаткаў, недаімак і даўгоў з сялянства і гарадзкой дробнай буржуазіі і даваньне падатковых ільгот абшарнікам і кулакам, буйным фабрыкантам, банкірам і купцом, удзешаўленьне для іх крэдыту, адтэрмінаваньне уплат па доўгатэрміновых крэдытах і т. п.

Фашыстоўская праграма прадбачыць таксама скарачэньне дзяржаўных і камунальных рабочых і служачых, далейшае паніжэньне зарплаты, скарачэньне пэнсій і дапамог беспрацоўным, інвалідам і т. п., скарачэньне выдаткаў на школы, на ахову здароўя, гаспадарчыя інвэстыцыі, пры адначасовым павялічэньні выдаткаў на армію, паліцыю, вастрогі і т.п.

Фашыстоўская гаспадарчая праграма разьлічана таксама на тое, каб УБІЦЬ КЛІН ПАМІЖ ПРАЛЕТАРЫЯТАМ І СЯЛЯНСТВАМ, дэмагагічна ўгаварваць масам эксплёатаванага сялянства, што высокія цэны на прамысловыя тавары таму ня могуць быць зьніжаны, што рабочыя масы супраціўляюцца зьніжэньню зарабковай платы і ліквідацыі сацыяльнага забесьпячэньня. Фашызм імкнецца нацкаваць сялянскія масы на пралетарыят, прыцягнуць сялянскія масы да правядзеньня гаспадарчай праграмы капіталістаў і абшарнікаў, якая забясьпечвае ім высокія прыбыткі за кошт узмацненьня эксплёатацыі і прыгнёту пралетарыята і ўсіх працоўных мас.

Фашыстоўскі ўрад ясна здае сабе справу ў тым, што правядзеньне гэтай грабежніцкай пра-

грамы спаткаецца з рашучым адпорам працоўных мас на чале з пралетарыятам і таму фашыстоўскі прэм'ер у сваёй прамове рашуча падкрэсьлівае, што ўрад не дапусьціць да парушэньня парадку і спакою, а гэта азначае далейшае ЎЗМАЦНЕНЬНЕ ТЭРАРУ І ПРЫГНЁТУ. УРАД МАБІЛІЗУЕ ВЕСЬ АПАРАТ ДЗЕЛЯ ЗДУШЭНЬНЯ БАРАЦЬБЫ МАС, ДЗЕЛЯ ЗДУШЭНЬНЯ СТАЧАЧНАГА РУХУ, ВЫСТУПЛЕНЬНЯЎ БЕСПРАЦОЎНЫХ, ДЗЕЛЯ ПАДАЎЛЕНЬНЯ АДПОРУ СЯЛЯНСКІХ МАС ПАДАТКОВАМУ ГРАБЯЖУ І АГРАБЛЕНЬНЮ Ў ІХ ЗЯМЛІ. Новы закон аб таварыствах — адно з далейшых зьвеньняў у ланцугу фашыстоўскага тэрару. Сыстэма палявых-судоў, шыбеніц і карных экспэдыцый усё ўзмацоўваецца, каб забясьпечыць правядзеньне праграмы капіталістычнага выхаду з крызісу.

Задача ўсіх партыйных арганізацый УДЗЕСЯЦЕРЫЦЬ СВАЕ СТАРАНЬНІ ПА МАБІЛІЗАЦЫІ МАС НА ГРУНЦЕ ІХ ШТОДЗЁННЫХ ПАТРЭБ ДЛЯ АДБІЦЬЦЯ АТАК КАПІТАЛІСТАЎ І АБШАРНІКАЎ, ДЗЕЛЯ РАЗГОРТВАНЬНЯ МАГУТНАГА КОНТРНАСТУПЛЕНЬНЯ.

Неабходна разгарнуць шырокую кампанію, растлумачваючы масам сутнасьць гаспадарчай праграмы фашызму.

Капіталістычнай праграме выхаду з крызіса якую падтрымоўваюць у больш адкрытай або замаскаванай форме сацыял, - нацыянал - і народніцка-фашыстоўскія партыі, наша партыя павінна супроцьпаставіць і шырака спапулярызаваць у масах ПРАГРАМУ РЭВАЛЮЦЫЙНАГА ВЫХАДУ З КРЫЗІСУ—УЗБРОЕНАЕ ПАЎСТАНЬНЕ ДЗЕЛЯ ЗВАЛЕНЬНЯ ДЫКТАТУРЫ БУРЖУАЗІІ — ФАШЫСТОЎСКАГА ЎРАДУ, СТВАРЭНЬНЯ РАБОЧА-СЯЛЯНСКАГА ЎРАДУ —УРАДУ САВЕТАЎ РАБОЧЫХ, СЯЛЯНСКІХ І САЛДАЦКІХ ДЭПУТАТАЎ, які забясьпечыць рэалізацыю права прыгнечаных народаў на самавызначэньне аж да аддзяленьня ад Польшчы, канфіскуе абшарніцкую зямлю і аддасьць яе сялянам бяз выкупу, скасуе ўсялякія даўгі і недаімкі, канфіскуе банкі, буйныя фабрыкі, увядзе рабочы кантроль над вытворчасьцю, 7-мі гадзінны рабочы дзень, ахову працы, увядзе і пашырыць сацыяльнае забесьпячэньне, дасьць дапамогу саматужнікам, рамесьнікам, зьнішчыць усялякі нацыянальны ўціск і забясьпечыць свабоднае разьвіцьцё ўсіх нацыянальнасьцяў, адменіць назначаных чыноўнікаў, замяніўшы іх абранымі самімі саветамі рабочых, сялянскіх і салдацкіх дэпутатаў.

Неабходна ўказваць масам, што шлях да рэвалюцыйнага выхаду з крызісу вядзе праз нясупынную шырокую масавую барацьбу супроць тых цяжараў, якія буржуазія і яе ўрад пры дапамозе сацыял, - нацыянал - і народніцка-фашыстоўскіх партыяў накладвае на працоўныя масы.

На чале задач, стаячых перад нашай партыяй неабходна паставіць зьдзейсьненьне дырэктыў VI зьезду КПП і VI пленуму ЦК КПЗБ па арганізацыі забастовачнай барацьбы пралетарыяту і выступленьняў беспрацоўных супроць рэдукцый, зьніжэньня зарплаты, за яе павялічэньне, супроць павялічэньня рабочага дню—за 7-мі гадзінны рабочы дзень, дапамогі для ўсіх беспрацоўных. Аб'яднаньне паасобных стачак, пашырэньне іх і абвастрэньне іх форм масавай барацьбы.

Пытаньне АБ ПАДРЫХТАВАНЬНІ ЎСЕАГУЛЬНАЙ ЗАБАСТОЎКІ СУПРОЦЬ ЛІКВІДАЦЫІ САЦЫЯЛЬНАГА ЗАБЕСЬПЯЧЭНЬНЯ ЗЬЯЎЛЯЕЦЦА ПРАКТЫЧНАЙ ЗАДАЧАЙ ДЛЯ ЎСІХ ЗЬВЕНЬНЯЎ НАШАЙ ПАРТЫІ. Неабходна неадкладна ўжо цяпер прыступіць да арганізацыі масовак, мітынгаў, хаця бы кароткатэрміновых стачак пратэсту і дэманстрацый, папулярызацыі ўсеагульнай стачкі і стварэньню камітэтаў акцыі з цьвёрдай устаноўкаю на пракляміраваньне ў адпаведны момант ўсеагульнай стачкі. Неабходна не дапусьціць да таго, як гэта мела месца ў мінулым годзе, каб наша ініцыятыва была перахоплена сацыял-фашызмам, які імкнецца сарваць барацьбу мас і накіраваць яе ў рэчышча мірных пратэстацыйных выступленьняў.

У вёсцы стараньні партарганізацыі павінны быць згуртаваны НА ПРАВЯДЗЕНЬНЕ ПРАГРАМЫ АКЦЫЙ, УКАЗАНЫХ У ПАСЬЛЯЗЬЕЗДАЎСКІХ РАШЭНЬНЯХ ЦК КПП І VI ПЛЕНУМУ ЦК КПЗБ. Неабходна асаблівую ўвагу зьвярнуць на замацаваньне саюзу рабочых і сялян шляхам арганізацыі супольных выступленьняў сялян, батракоў, рабочых на лесных разработках і сэзонных рабочых, шляхам арганізацыі актыўных выступленьняў пралетарыяту супроць крывавага душэньня барацьбы сялянскіх мас, супроць карных экспэдыцый і пацыфікацыі. Барацьба супроць фашыстоўскай праграмы выхаду з крызісу, скіраванай як супроць пралетарыяту, тэтак і супроць эксплёатаванага сялянства, павінна больш, чым калі-небудзь грунтавацца на ўзаемнай ДАПАМОЗЕ РАБОЧЫХ І СЯЛЯН І ЗАМАЦАВАНЬНІ ІХ БАЯВОГА САЮЗУ.

Вільня, сьнежань 1932 г.

---

**ТАВАРЫШ! РАСПАЎСЮДЖЫВАЙ РЭВАЛЮЦЫЙНУЮ ЛІТАРАТУРУ, САБІРАЙ ПРЫ ГЭТЫМ ГРАШОВЫЯ СРОДКІ НА ПРЭСАВЫ ФОНД, УЦЯГВАЙ У ГЭТУЮ АКЦЫЮ БЕСПАРТЫЙНЫХ РАБОЧЫХ І СЯЛЯН.**

# БАРАЦЬБА СУПРОЦЬ ПАЦЫФІКАЦЫІ— цэнтральная задача ўсяе партыі

Барацьба сялянскіх мас за зямлю, супроць абшарніцкае кабалы, падатковага грабяжу, прыгонных шарварак, барацьба шырокіх народных мас Заходняй Беларусі супроць акупацыі пашыраецца і абвастраецца. Баявыя выступленьні масаў ахопліваюць цэлыя раёны, выліваюцца ў актыўны адпор бандам паліцыі, які ў паасобных выпадках пераходзіць у збройны адпор. Нават афіцыйная прэса падзеі на Палесьсі называе паўстаньнем. Паводле «тлумачэньня» міністра Перацкага, для падаўленьня партызанскіх атрадаў на Палесьсі было ўжыта сотні паліцэйскіх, ужыта звыш 4-х швадронаў КОП. У баях загінула 21 партызан, захоплена 29, якія перададзены суду, пры чым ужо вынясены 4 прысуды сьмерці. З паліцэйскіх забіта 2-х, 4-х атрымалі раны і адзін афіцэр паліцыі страціў нагу.

Фашыстоўская акупацыя імкнецца затапіць у крыві разрастаючыся рэвалюцыйны рух пры дапамозе надзвычайных судоў, лесу шыбеніц, масавых арыштаў і катаваньняў, карацельных экспэдыцый, крывавай пацыфікацыі цэлых раёнаў. Усьцяж ідзе усьмірэньне Валыні і Палесься. Ковельскі і Камень-Кашырскі паветы залітыя войскам і паліцыяй, зьнішчаны і разбураны цэлыя вёскі, вастрогі перапоўнены, растрэлы і шыбеніцы—штодзённае зьявішча. Карацельныя атрады перакінуты ўжо ў суседнія Янаўскі і Любяшоўскі раёны. У лістападзе распачалася пацыфікацыя ў Дамачэўскім раёне ў сувязі з баявою дэманстрацыяй сялян у 15-тую гадавіну Кастрычнікавай рэвалюцыі, а таксама ў Гарадокскім раёне Беласточчыны ў сувязі з адбіцьцём масамі арыштаванага за адпор экзэкутару селяніна. У пачатку сьнежня распачалася пацыфікацыя ў Індурскім і Алекшыцкім раёнах Горадзеншчыны ў адказ на стойкую барацьбу сялян гэтых раёнаў супроць прымусовае камасацыі.

Крывавая пацыфікацыя, якая з дня на дзень пашыраецца на ўсё новыя раёны, гэта высілкі раз'юшанага акупанта задушыць нарастаючыя сялянскія і нац.вызваленчыя паўстаньні, забясьпечыць тыл для грабежніцкага нападу на СССР.

**Мабілізацыя мас на барацьбу супроць пацыфікацыі, на актыўны адпор карацельным экспэдыцыям—цэнтральная задача нашае партыі.**

Аднак да гэтага часу партарганізацыі зрабілі надзвычай мала для зьдзейсьненьня гэтае важнейшае задачы. За рэдкімі выключэньнямі да апошняга часу бадай нічога ня зроблена для арганізацыі масавага адпору карацельным экспэдыцыям, для арганізацыі выступленьняў салідарнасьці і падтрыманьня барацьбы масаў у раёнах, ахопленых пацыфікацыяй. Дырэктывы ЦК дасюль не праведзены ў жыцьцё.

Прычына гэтага, таксама як і прычына пасыўнасьці партыі ў часе пацыфікацыі на Заходняй Украіне ў 1930 г., перадусім ляжыць **у недаацэнцы ўсяе важнасьці значэньня нацыянальна-вызваленчага руху, як аднаго з падставовых чыньнікаў сацыялістычнае рэвалюцыі ў Польшчы, у недаацэнцы вялізарнага значэньня мабілізацыі якнайшырэйшых мас на барацьбу супроць акупацыі на падставе найбольш яскравых праяваў нацыянальнага ўціску і акупанцкага тэрару.** Партарганізацыі і партыйны актыў дасюль не ўсьведамілі сабе пякучай патрэбы арганізацыі масавых выступленьняў супроць пацыфікацыі, для адпору карацельным экспэдыцыям і іншым крывавым праявам акупацыйнага тэрару для **узмацненьня, аб'яднаньня і каардынацыі рэвалюцыйнага руху для таго, каб не дапусьціць да ізоляцыі паасобных, найбольш высунутых вучасткаў барацьбы, каб не даць фашызму разьбіць рэвалюцыйны рух па частках.** Партарганізацыі не навучыліся яшчэ канцэнтраваць сваю ўвагу на цэнтральныя падставовыя задачы і шпарка рэагаваць на выпадкі першараднага значэньня. Партыя дасюль не зрабіла вывадаў з урокаў пацыфікацыі на Зах. Украіне ў 1930 г. і крывавага падаўленьня ў Ліскім павеце ўлетку 1932 г.

Ня кажам ужо аб другіх, але нават **Пінская і Берасьцейская** партарганізацыі, на тэрыторыі якіх **адбываецца пацыфікатарская акцыя,** ня толькі не зрабілі **спробаў арганізаваньня масавых выступленьняў супроць карацельных экспэдыцый,** на падтрыманьне барацьбы партызанскіх атрадаў, але нават згубілі кантакт і не зрабілі спробаў наладзіць сувязь з раёнамі, ахопленымі пацыфікацыяй. У справаздачах і інш. матэр'ялах

з гэтых акругоў нават і ўспаміну няма аб пацыфікацыі. У пазбаўленых кіраўніцтва і конкрэтных дырэктыў з боку АК раёных арганізацыях растуць настроі капітулянцтва перад тэрарам, настроі аб немагчымасьці разгортваньня масавае барацьбы, сэктанцтва і спаўзаньня на шлях індывідуальнага тэрору. Гэтым на строям у паасобных выпадках паддаюцца нават адказныя кіраўнікі; ствараюцца тэорыйкі аб пасыўнасьці стэрорызаваных мас. Беспадстаўнасьць гэтых капітулянцкіх тэорыяк і настрояў яскрава апраўяргае досьлед **Індурскай і Алекшыцкай партарганізацый Горадзенскага акругу,** якія пад кіраўніцтвам АК шпарка **змабілізавалі шырокія масы на барацьбу супроць карацельных экспэдыцый,** змаглі на працягу 3-4 дзён **ахапіць масоўкамі тысячныя масы, зарганізаваць баявыя мітынгі і дэманстрацыі пратэсту,** арганізаваць адпор масаў карацельным атрадам. Досьлед Індурскай і Алекшыцкай партарганізацый павінен быць шырока спапулярызаваны, як прыклад захаваньня цеснай сувязі партарганізацыі з масамі ў варунках пацыфікацыі, правільнага учоту настрояў мас, сваячасовага рэагаваньня на падзеі, значных посьпехаў у барацьбе з пацыфікацыяй, правільнага павязаньня яе з штодзённаю барацьбою масаў і бягучымі-палітычнымі кампаніямі (у дадзеным выпадку з барацьбою супроць камасацыі і працэсам Тарашкевіча).

Партарганізацыі нашых найбольшых пролетарскіх цэнтраў—**Вільні і Беластоку**—ня толькі **не праявілі ніякіх высілкаў для мабілізацыі масаў пролетарыяту на актыўныя выступленьні супроць пацыфікацыі** (дэманстрацыі, стачкі пратэсту і т. п.), але нават не правялі **ні аднэй масоўкі, ні аднаго собраньня для вынясеньня рэзалюцый пратэсту супроць крывавай расправы акупантаў** на Палесьсі і Валыні. Гэтыя грозныя факты сьведчаць аб **поўным неразуменьні з боку кіраўніцтва Віленскай і Беластоцкай партарганізацый тае падставовае задачы** адносна нацыянальна-вызваленчае барацьбы паняволеных народаў, якую так моцна падкрэсьліў VI зьезд КПП:

«Замацаваньне саюзу рабочае клясы Польшчы з масамі паняволеных народаў магчыма толькі пад варункам, што пралетарыят пад кіраўніцтвам КПП будзе вясьці штодзённую няўпынную барацьбу супроць колёніяльнага грабежніцтва і ўціску паняволеных народаў, што будзе актыўна падтрымліваць вызваленчую барацьбу паняволеных народаў супроць польскага імпэрыялізму. Работніцкая кляса павінна неадкладна рэагаваць на кожную праяву нацыянальнага ўціску праз пратэсты, дэманстрацыі і стачкі».

Пасыўнасьць нашых партарганізацый па мабілізацыі пралетарыяту на актыўныя выступленьні супроць пацыфікацыі выцякае з неразуменьня таго, што толькі шляхам актыўных выступленьняў пролетарыят забясьпечыць сваю ролю гегемона ў сялянскім і нацыянальна-вызваленчым руху, зьнішчыць імкненьні акупантаў і яе агэнтаў—сацыял - нацыянал - і народніцка - фашыстоўскіх партый—убіць клін паміж пралетарыятам, сялянствам і шырокімі масамі паняволеных народаў, аслабіць іх баявы саюз.

Барацьба супроць пацыфікацыі—цэнтральная задача нашай партыі. Трэба неадкладна скончыць з пасыўнасьцю партарганізацый на гэтым важнейшым вучастку барацьбы, трэба **дабіцца рашучага пераломy перадусім у шэрагах нашых партарганізацый, у шэрагах партыйнага кіраўніцтва актыву.** Трэба разгарнуць шырокую акцыю салідарнасьці і падтрыманьня барацьбы масаў, ахопленых пацыфікацыяй раёнаў шляхам вынясеньня рэзалюцыяў на масоўках, сабраньнях, сходах і мітынгах, шляхам арганізацыі дэманстрацый, стачак пратэсту, пры гэтым трэба асаблівую ўвагу зьвярнуць на арганізацыю выступленьняў пролетарыяту. Адначасна трэба сконцэнтраваць высілкі на разгортваньне масавае барацьбы ў ахопленых пацыфікацыяй і суседніх з імі раёнах, арганізацыі масавага адпору карацельным экспэдыцыям да збройнага адпору ўключна. У зьвязку з гэтым асабліва важнае значэньне набірае стварэньне масавае самаабароны, стварэньне густае сеткі сялянскіх камітэтаў і арганізацыі чырвоных ганцоў. Падставовым варункам пасьпяховасьці разгортываньня шырокае акцыі супроць пацыфікацыі гэта шырокае высьвятленьне ў прэсе і вуснай агітацыі ўсіх фактаў крывавае фашыстоўскае пацыфікатарскае акцыі; трэба зьбіраць дакладныя дадзеныя, з канкрэтным апісаньнем фактаў тэрору і насільля, апавяшчаць у прэсе, лістоўках, праз чырвоных ганцоў і г. д., скіроўваць сабраныя факты да комфракцыі ў Сойме, арганізаваць выступленьні рэвалю-

цыйных радных на гмінных радах і г. д. АК і РК павінны зрабіць усё, каб наладзіць і забяспечыць цесную сувязь з раёнамі ахопленымі пацыфікацыяй і забясьпечыць бесперабойную дзейнасьць партарганізацый у гэтых раёнах. Трэба ўзмацніць агітацыю сярод салдат, якіх фашыстоўскі ўрад насылае для праведзеньня пацыфікацыі, за адмову браць удзел у карацельных экспэдыцыях для душэньня сялянскіх выступленьняў, партызанскіх аддзелаў, сялянскіх і нац.-вызваленчых паўстаньняў.

Каб дабіцца як найхутчэйшага пералому, усе партарганізацыі павінны паставіць неадкладна пытаньне аб барацьбе супроць пацыфікацыі на парадак дня і распрацаваць рад канкрэтных мерапрыемстваў для разгортваньня шырокай масавай кампаніі, узмоцніць праверку і кантролю выкананьня рашэньняў і дырэктыў праз усе зьвеньні партыі. Інструктары, АК і РК павінны даваць сыстэматычныя справаздачы аб ходзе акцыі.

Галоўнае ў правядзеньні гэтай акцыі— неадкладнае рэагаваньне на выпадкі, масавасьць барацьбы, аб'яднаньне паасобных выступленьняў і коордынацыя барацьбы пролетарыяту з барацьбой сялянскіх масаў. VI Пленум ЦК КПЗБ высунуў як падставовую задачу, **«коордынацыю баёў пралетарыяту з насьпяваючымі сялянскімі і нац.-вызваленчымі паўстаньнямі, аб'яднаньне рабочага, сялянскага і нац.-вызваленчага руху і забясьпячэньне кіруючай ролі партыі на ўсіх рашаючых вучастках барацьбы».** А ў сучасны момант адным з такіх рашаючых вучасткаў — гэта ёсьць барацьба супроць пацыфікацыі.

## СУПРОЦЬ ДЭКРЭТУ АБ ВАЕННА-ПАЛЯВЫХ СУДОХ

Усё узрастаючы шырокі рэвалюцыйны рух працоўных гораду і вёскі пераносіцца ў кашары да рабочага і селяніна ў салдацкім мундзіры. Становішча салдат у арміі вельмі пагоршылася: зьмяншэньне і пагоршаньне харчаваньня, скарачэньне грашовай пэнсіі, узмоцненая палачная дысцыпліна, штрафы і кары, зьдзекі афіцэрства і г. д. Супроць гэтага растуць абурэньне і рэвалюцыйныя настроі салдат. Усё часьцей і з усё большай колькасьці кашар ЗБ даходзяць весткі аб масавых непадпарадкаваньнях салдат: у аднэй компаніі 2 дні не бяруць галоднага і дрэннага абеду, у другой дрэннае сьнеданьне—салдаты не пяюць набожных песен; у трэцяй — доўга галодныя ішлі ў паход—спыніліся, патрабавалі хлеба; зьдзекваюцца каманадаваньнем «кладзіся, уставай»—ня выконваюць; увечары ў цемры салдаты галасна выступаюць супроць афіцэраў. Ёсьць факты, калі салдаты адкрыта выяўляюць сваё абурэньне супроць «пацыфікацыі» і нават адмаўляліся ад паслушэнства.

Апошні дэкрэт—загад Пілсудзкага аб увядзеньні ваенна-палявых судоў — растрэлаў у арміі за такія факты, як «супольнае адмаўленьне ад паслушэнства, зьбіраньне некалькіх салдат з мэтай накінуцца на начальства, за беспраўнае стварэньне ўзброеных саюзаў» і т. п.,— гаворыць аб тым, што рэвалюцыйныя настроі ў арміі значна вырасьлі, што «надзейная» узброеная апора фашызму — **армія пачала дзе-ні-дзе раскладацца.**

Мы павінны ўказаць салдатам, усім працоўным масам, што гэты дэкрэт разам з увядзеньнем палявых судоў для рабочых і служачых ваеннай прамысловасьці, такжа як і ператварэньне «Стральца» у дзяржаўную арганізацыю, будучы накіраваны супроць растучага рэвалюцыйнага руху — аднačасна паказвае, як фашыстоўская дыктатура, пад шыльдай пактаў аб ненападзеньні, шалёна праводзіць падрыхтоўку вайны.

У нашу масавую барацьбу супроць палявых судоў, «пацыфікацыі» мы павінны мабілізаваць рабочыя і сялянскія масы супроць ваенна- палявых судоў у арміі, супроць кожнага зьдзеку над салдатамі. Гэта мае вялікае значэньне для ўцягваньня салдат у надыходзячыя рэвалюцыйныя баі.

Новыя дэкрэты, сьведчаць аб паслабленьні фашызму ў яго самым адчувальным месцы — арміі, аб узмацненьні лягеру рэвалюцыі. Аб'ектыўныя варункі работы партыі і КСМ у арміі палепшыліся ў сувязі з ростам рэвалюцыйных настрояў. Аднак, у сувязі з узможаным тэрарам узрастаюць новыя цяжкасьці. Адгэтуль—неабходна ўсю нашу антываенную барацьбу па-за і ўнутры кашар завастрыць і ўвязаць з барацьбой супроць новых дэкрэтаў сьмерці і голаду фашыстоўскага ўраду.

# ЭКАНАМІЧНЫЯ АКЦЫІ

## НЕ АСЛАБЛЯЦЬ, А ЎЗМОЦНІЦЬ КІРАЎНІЦТВА ШТОДЗЁННАЮ БАРАЦЬБОЮ МАС

**«У сучасным пераломным пэрыядзе падставай тактычна - арганізацыйнай установкі партыі павінна быць расшырэньне, рэвалюцыянізаваньне і каардынацыя штодзенных баёў, лучэньне эканамічных забастовак з палітычнымі стачкамі, разгортываньне масавых рэвалюцыйных стачак, здабыцьцё праз партыю кіруючае ролі на ўсіх рашаючых вучастках барацьбы пролетарыяту і эксплёатаванага сялянства, разьбіцьцё масавае базы соцыял - і народніцка - фашызму, прысьпяшэньне тэмпа здабыцьця большасьці пролетарыяту».**

**(З пастаноў VI зьезду КПП).**

Барацьба за **штодзенныя** інтарэсы шырокіх працоўных масаў, арганізацыя і кіраўніцтва гэтай барацьбой зьяўляецца на дадзеным этапе падставовым цэнтральным зьвяном, пры дапамозе якога партыя зможа заваяваць большасьць рабочае клясы, павясьці за пролетарыятам падставовыя масы сялянства і частку гарадзкое дробнае буржуазіі, пасьпяхова мабілізаваць масы на барацьбу супроць акупацыі. Толькі шляхам неаслабнае барацьбы за штодзенныя патрэбы мас мы зможам адбіць атакі капіталістаў і абшарнікаў на працоўныя масы і падрыхтаваць да рашаючых баёў за ўладу.

«Падставовым фактарам рэвалюцыйнага ўздыму — кажа VI Зьезд КПП — стаўся адпор, які аказваюць рабочыя масы шалёнаму наступу капіталу, адпор, які на некаторых вучастках пераходзіць у **контр-наступленьне супроць фашыстоўскай дыктатуры і капіталізму»**.

За апошні час мы маем аслабленьне актыўнасьці з боку шэрагу партарганізацый у галіне арганізацыі барацьбы за штодзенныя патрэбы мас. Найбольшае адставаньне выяўляе ў гэтай галіне Віленская арганізацыя, якая ня толькі не праявіла належнай ініцыятывы па мабілізацыі мас на барацьбу за штодзенныя патрэбы, але нават не выкарыстала для разгортваньня акцый насьпеўшых канфліктаў у гутнікаў, каналізацыйных рабочых, чыгуначнікаў і інш. Ясная рэч, што гэтая пасыўнасьць Віленскай партарганізацыі не магла не адбіцца і на разгортываньні агульна-палітычных акцый, як XV угодкі Кастрычнікавай Рэвалюцыі, барацьба супроць пацыфікацыі, працэс Тарашкевіча. Такую - ж слабую актыўнасьць праяўляюць Горадзенская, Пінская і Берасьцейская арганізацыі, дзе партарганізацыі не зрабілі нічога для арганізацыі адпору рабочых запалачных і тытунёвых фабрык і дрэваапрацовачных рабочых супроць новых атак ураду і фабрыкантаў. Нават Беластоцкая арганізацыя, якая за апошні год выявіла вялікую актыўнасьць па арганізацыі буйнейшых забастовачных баёў (агульная стачка тэкстыльшчыкаў, забастоўка шаўцоў, лесарубаў у Белавескай Пушчы) аслабіла сваю актыўнасьць па арганізацыі барацьбы важнейшага атраду беластоцкага пралетарыяту — тэкстыльшчыкаў. Асабліва рэзка выступае надзвычай слабая актыўнасьць усіх пратарганізацый па арганізацыі барацьбы безработных.

Аслабленьне актыўнасьці партарганізацый у кіраўніцтве барацьбою мас на падставе іх штодзенных патрэбаў у нашых рашаючых пралетарскіх асяродках асабліва пагражаюча цяпер, калі буржуазія і абшарнікі распачалі новую генеральную атаку на працоўныя масы. Сыгналам для гэтай атакі на зарплату і сацыяльнае абясьпячэньне зьяўляецца экспозэ Прыстара. Гэтую генэральную атаку ўжо распачалі абшарнікі зрывам калляктыўнай умовы з сельска-гаспадарчымі рабочымі.

Усе партыйныя арганізацыі павінны неадкладна перамагчы гэтае пагражаючае адставаньне. Трэба павярнуць усе партарганізацыі тварам да арганізацыі штодзеннай барацьбы. Трэба забясьпечыць цесную сувязь партарганізацый з рабочымі масамі, узмоцніць ячэйкі на прадпрыемствах, пільна сачыць за настроямі мас, быць у курсе кожнага насьпяваючага канфлікту, выкарыстоўваючы кожны конфлікт для разгортваньня барацьбы, для ўцягваньня ў барацьбу як найшырэйшых мас на падставе правільнага прымяненьня тактыкі адзінага фронту. Генеральнай атакі капіталістаў і абшарнікаў трэба працівапаставіць адзіны фронт барацьбы рабочае клясы, яе баявы саюз з эксплёатаванымі масамі сялянства.

На камітэтах, ячэйках на фракцыях, на сабраньнях актыву, на нарадах з беспар-

тыйнымі, у рэвалюцыйных прафсаюзах, на групах профлевіцы, на опозыцыях у рэакцыйных профсаюзах трэба неадкладна паставіць абмяркаваньне канкрэтных мерапрыемстваў па арганізацыі адпору супроць наступленьня капіталістаў і абшарнікаў, па арганізацыі барацьбы шырокіх мас. Трэба узмоцніць працу па актывізацыі рэвалюцыйных прафсаюзаў, і разбудове і актывізацыі груп профлевіцы, а асабліва дабіцца пералому па ўзмацненьні працы ў рэакцыйных профсаюзах і стварэньні опозыцый ў гэтых саюзах. Рашэньні партыйных органаў, лепшыя прапановы партыйцаў і беспартыйных трэба неадкладна праводзіць у жыцьцё, неадкладна пераносіць у масы. Асаблівую вагу мае правядзеньне вялікай працы па падрыхтоўцы і арганізацыі барацьбы сельска-гаспадарчых рабочых.

У штодзеннай працы па арганізацыі барацьбы мас за іх штодзенныя патрэбы партарганізацыі павінны рыхтаваць масы да адбіцьця генэральнай атакі буржуазіі на сацыяльнае забясьпячэньне, рыхтаваць масы да ўсеагульнае стачкі ва ўсім краі.

## ТРЭБА ДАБІЦЦА ЗРУШША

### ЧАС ПАКОНЧЫЦЬ З НЕДААЦЭНКАЙ ПРАЦЫ СЯРОД ПАРАБКОЎ

**Пазбавіцца аграрнага крызісу можна шляхам зьніжэньня коштаў вытворчасьці ў сялянскай гаспадарцы.** (З прамовы міністра Прыстора).

**Трэба зьнішчыць уставу аб калектыўных дагаворах у сельскай гаспадарцы.** (З газэты «Слова»).

**У маёнтку Княжэвічы (Горадзеншчына) забаставала ў лістападзе 15 парабчанскіх сем'яў, дамагаючыся выплаты ардынарыя, якую абшарнік не выплачваў два гады. Забастоўка выіграна.** (Справаздача з месц).

У гэтым годзе абшарнікі па лёзунгу,ададзенаму самім урадам ідуць ва-усю на «зьмяншэньне коштаў прадукцыі», на ўрэзваньне зарплаты парабком, а частагуста зусім не выплачвюць, альбо заместа платы прапануюць арэнду сваіх аблогаў. Побач з тым ідзе далейшая масавая рэдукцыя парабкоў, выкідваньне іх з памешканьняў. Абшарнікі ў гэтым годзе не ідуць на ніякія калектыўныя дагаворы і праводзяць паасобныя дагаворы, дыктуючы свае ўмовы працы і платы, каб кінуць парабкоў на ласку і няласку сельскім эксплёататарам, узьдзець нябывалае дагэтуль ярмо эксплёатацыі.

Навіцкі ў «Роботніку» з трывогай папераджае абшарнікаў, каб яны дзеля «сваёй бясьпечнасьці» паглядзелі на настрой парабкоў, улічылі награмаджэньне, «потэнцыяльнай сілы на фальварках, якая ў любы момант можа выбухнуць». Навіцкія, Квапінскія і інш. сваёй «левай» крыклівай фразэолёгіяй і гутаркай аб тым, што не ўсе абшарнікі ворагі парабкоў, што ёсьць такія, з якімі можна дагаварыцца, па сутнасьці дэзарыентуюць парабкоў, зрываюць іх барацьбу і гэтым садзейнічаюць абшарнікам і кулацтву весьці бесперабойнае наступленьне на жыцьцёвы ровень парабкоў.

Многалікія пастановы партыі, каб узначаліць і арганізаваць барацьбу парабкоў да гэтага часу не праведзены ў жыцьцё мясцовымі партарганізацыямі. Адставаньне на гэтым вучастку тым больш недапусьціма, калі прыняць пад увагу рост рэвалюцыйных настрояў сярод парабкоў. У шэргах мясцовых арганізацыях яшчэ моцна сядзіць недаацэнка працы сярод сельска-гаспадарчага пралетарыяту, няўменьне высунуць найбольш актуальнае іх патрабаваньне, каля якога можна разгарнуць барацьбу аж да **забастоўкі.**

Партыйныя арганізацыі павінны, не трацячы часу, прыступіць да арганізацыі барацьбы сельска-гаспадарчых рабочых, а перадусім высунуць і папулярызаваць трэбаваньні, за якія мы ўзьнімаем барацьбу. Асабліва сёлета трэба завострыць увагу на барацьбу супроць **рэдукцый і эксмісій, за выплату задоўжанасьці зарплаты.** Трэбаваньні павінны быць уважліва прыстасаваны для мясцовых варункаў і праверaны на нарадах с сельска-гаспадарчымі рабочымі.

На генэральную атаку абшарнікаў і ўраду **на сельска-гаспадарчых рабочых,** на зрыў абшарнікамі перагавораў аб калдагаворах, яўнае здрадніцтва ППС, якія згадзіліся на зьніжэньне зарплаты, арганізаваць масавыя выступленьня парабкоў, ладзіць масавыя забастоўкі і ставіць на парадак дня **неадкладную падрыхтоўку ўсеагульнай стачкі сельска-гаспадарчых рабочых.** Усе партарганізацыі

павінны неадкладна прыступіць да арганізацыі нарад парабкоў і сэзонных рабочых, распрацоўкі канкрэтных патрабаваньняў, выбараў камітэтаў акцыі, узмацненьне здэмаскаваньня здрадніцкай ролі Квапінскіх і інцных сацыял-фашыстоўскіх правадыроў, прадаючых абшарнікам інтарэсы сельска-гаспадарчых рабочых.

Сарваньне калектыўных дагавораў пры ўдзеле правадыроў ППС узмоцніць рэвалюцыйныя настроі ў іх прафсаюзах, дзе неабходна падхапіць гэтыя настроі і на аснове тактыкі адзінага фронту пашырыць і арганізаваць профапазыцыю. У тых раёнах, дзе прафсаюзы Квапінскага ня маюць масавай падставы, а на ЗБ гэта пераважаючае зьявішча, дык там трэба загадзя, правёўшы падрыхтоўчую цу, арганізаваць мясцовыя прафсаюзы сельска-гаспадарчых рабочых.

У барацьбу парабкоў неабходна ўцягваць ваколічныя сялянскія масы, якіх абшарнікі шырака выкарыстоўвоюць, як сэзонную рабочую сілу.

## ЗАБАСТОЎКА 4000 ЛЕСАРУБАЎ БЕЛАВЕЖСКАЙ ПУШЧЫ.

Забастоўка 4000 лесарубаў Белавежскай Пушчы—чацьвёртая па ліку ў гэтым годзе забастоўка ў раёне Гайнаўка—Белавежа — цягнулася бадай шэсьць тыдняў і скончылася хоць не поўнай, але паважнай перамогай рабочых. Рабочыя ня толькі адбілі атаку на зьніжэньне зарплаты, але дабіліся яе павялічэньня; задаволены таксама шэраг лёкальных дамаганьняў.

Стачка лесарубаў таксама як і распачаўшаяся стачка сялян-возчыкаў 30-ці вёсак у Пружанскім раёне, зьяўляецца яскравым паказальнікам, што за прыкладам прамысловых рабочых у забастовачную барацьбу ўцягваюцца і распарушаныя паўпралетарскія масы вёскі.

Забастоўка адбывалася ў надзвычай трудных варунках, пры вялізарнай распыленасьці рабочых, пры шалёным супраціве дырэкцыі, якая прабавала ня толькі вэрбаваць сялян у якасьці штрэйкбрэхераў з акалічных раёнаў, але арганізавала масавы прывоз рабочае сілы з Віленшчыны, Келецкага ваяводзтва і Гуцульшчыны (Зах. Украіна), пры дзікім тэроры, наваднецьні ўсяе Пушчы карацельнымі атрадамі паліцыі і ўзброенай лясное стражы, якія стралялі ў рабочыя пікеты, рабілі аблавы, масавыя арышты, катаваньні і забойствы рабочых.

Труднасьці стачкі павялічваліся ў выніку гібкага манэўраваньня ППС, якім яна прыкрывала свае штрэйкбрэхерства, свае высілкі на зламаньне стачкі. Пэпэсоўскае праўленьне прафсаюзу змушана было праклямаваць стачку пад магутным напорам рабочых мас, пад даўленьнем нездавольства згодніцтвам правадыроў сярод рабочых нізоў мясцовае пэпэсоўскае арганізацыі. У гэтых варунках правадыры ППС у асобе Дюбуа, каб забясьпечыць свой уплыў на разьвіцьцё стачкі, прымушаны былі завастраць левую фразу і манэўры (як напр. абяцанкі праклямаваць агульную стачку ва ўсёй Беластоцкай акрузе, падхопліваньне высунутага нашай партыяй лёзунгу дэманстрацыі пад дырэкцыю і інш.). Побач з тым Капітулкі і Рэгінэлі доўгі час утойвалі ад беластоцкіх рабочых сам факт забастоўкі лесарубаў, каб ізаляваць іх барацьбу; па іх даносу быў арыштаван Камітэт Салідарнасьці, выбраны беластоцкімі тэкстыльшчыкамі.

РК Гайноўка - Белавежа не забясьпечыў сувязі з лесарубамі, не распрацаваў дамаганьняў, не правёў належнае падрыхтаваўчае працы ні сярэд лесарубаў, ні нават сярод рабочых тартакоў і хімічнай фабрыкі. Але ня глядзячы на гэтыя буйныя занедбаньні Гайнаўская партарганізацыя з моманту выбуху стачкі, дзякуючы шпаркай дапамозе з боку ЦК і Беластоцкага АК, мабілізавала свае сілы і правяла значную працу па арганізацыі і кіраўніцтву стачкай.

Партарганізацыя пры дапамозе вясковых ячэяк шпарка зьвязалася з бастуючымі, дала правільную ўстаноўку на арганізацыю мясцовых і выбор цэнтральнага забастовачнага камітэту, на арганізацыю барацьбы са штрэйкбрэхерамі, паліцэйскім тэрорам, на арганізацыю паходу-дэманстрацыі пад дырэкцыю. У Новым Гданску, Чэрлянцы і Пасуцкіх Будах былі выбраны стачкомы, былі зарганізаваны рабочыя пікеты па ўсёй Пушчы. Праведзена была шырокая барацьба са штрэйкбрэхерствам, уцягнуты ў гэтую барацьбу сялянскія масы. Шмат дзе быў зарганізаваны адпор паліцыі.

Партарганізацыя правяла вялікую працу па арганізацыі акцыі салідарнасьці, асабліва ў гор. Беластоку і сярод акалічных вёсак. Акцыя салідарнасьці, ня гледзячы на ўсе высілкі сацыял-фашыстаў сарваць яе, прыняла шырокія разьмеры і выразілася ў зборы дапамогі на рабочых сабраньнях, асабліва сярод тэкстыльшчыкаў, арганізацыі ў Беластоку Камітэту Салідарнасьці, у пасылцы беластоцкімі тэкстыльшчыкамі дэлегацыі к бастуючым лесарубам, у арганізацыі стачкі салідарнасьці 500 шаўцоў у Беластоку і на тартаках у Гайнаўцы, у прыняцьці шэрагу рэзалюцый салідарнасьці на рабочых масоўках, а ў вёсцы — у масавым падтрыманьні з боку сялян барацьбы супроць штрэйкбрэхераў, у зборцы хлеба і бульбы для бастуючых, выступленьнях сялян на мітынгах бастуючых, арганізацыі шэрагу масовак на вёсках, мітынгу на рынку ў Гайнаўцы і г. д.

Усё гэта аказала рашаючы ўплыў на ход і разьвіцьцё стачкі. Толькі дзякуючы гэтаму супольным высілкам дырэкцыі, паліцыі і соц.-фашыстам ня ўдалося сарваць барацьбу лесарубаў.

Аднак, ня гледзячы на гэтыя буйныя дасягненьні, партарганізацыя не змагла цалкам вырваць кіраўніцтва стачкай з рук сац.-фашыстаў, што бязумоўна адбілася на канчатковых выніках барацьбы. Падставовая прычына гэтага крыецца ня толькі у слабай рабоце па падрыхтоўцы стачкі, але таксама ў памылках дапушчаных у ходзе самой стачкі.

За ўвесь час стачкі партарганізацыя не здалела навязаць сувязі з больш далёкім раёнамі Пушчы і пашырыць сетку нізавых забастовачных камітэтаў. Замест таго, каб неадкладна і рашуча ўзяцца за арганізацыю цэнтральнага забастовачнага камітэту, ці пераняцьце гэтых функцыяў адным з нізавых стачкомаў, папоў-

неным дэлегатамі ад другіх, — зьдзейсьненьне гэтай важнейшай задачы адкладалася з дня на дзень і ўрэшце зусім ня было зрэалізавана. Таксама былі праяўлены нерашучасьць і хістаньні адносна арганізацыі дэманстрацыі, што зьяўлялася падставовым варункам расшырэньня і абвастрэньня стачкі, залогам яе перамогі. Адкладваньне з дня на дзень дэманстрацыі, чаканьне на выніке перагавораў пэпээсоўскіх махэраў з дырэкцыяй і інспэктарам працы, ня гледзячы на баявыя настроі мас, сьведчаць аб апартуністычных хістаньнях у адносінах да ППС Гэтыя хістаньні аблягчылі манэўраваньне ППС. Нашы промахі і памылкі былі выкарыстаны дырэкцыяй і ППС-оўскімі махэрамі, якія, улічваючы настроі мас, падхапілі лёзунг дэманстрацыі, адначасна стараліся яго адцягнуць, каб мець час дабіць свой торг з дырэкцыяй, і пасьпяшылі падпісаць з ею ўмовы аб заканчэньні стачкі, як раз на пярэдадні падрыхтаванай і вызначанай ужо дэманстрацыі. Апартуністычныя хістаньні у адносінах да ППС знайшлі свае выражэньне таксама ў невыстарчаючым дэмаскаваньні левых манэўраў ППС, а ў паасобных выпадках нават у ілюзіях адносна да іх левай фразы. Сярод нашых таварышоў нават раздаваліся такія галасы, як напр.: «А можа трэба ўстрымацца з крытыкай Пасяка, бо ён жа выступае амаль ня так, як камуніст!» — і карыстаючы з гэтага Пасяк і яго камраты нагла туманілі рабочых.

Стачка выявіла, што сярод нашых таварышоў усё яшчэ няма правільнага разуменьня тактыкі адзінага фронту—гэтага падставовага варунку для арганізацыі адпору мас атакам капіталу, магутнага аружжа ў барацьбе па вырываньню рабочых з-пад уплываў соц.-фашызму. Побач з паказанымі вышэй апартуністычнымі хістаньнямі, у паасобных адказных таварышоў выявіўся вузкі сектанскі падыход да пэпэсаўскіх рабочых, змешваньне апазыцыйна-настроеных нізоў пэпэсоўскай арганізацыі з пэпэсоўскімі махэрамі, спэкулюючымі левай фразай.

На жывым прыкладзе апошніх стачак рабочыя масы Гайнаўкі-Белавежы мелі магчымасьць сваімі вачыма бачыць факты сацыял-фашыстоўскай здрады. Гэта стварала грунт для ўзросту апазыцыйных настрояў да ППС ня толькі ў шырокіх рабочых масах, але таксама сярод нізоў пэпсоўскай арганізацыі. Радавыя члены ППС пачалі адчуваць, што іх правадыры дрэнна бароняць іх рабочыя інтарэсы, але яны яшчэ не ўсьведамілі сабе цалкам прадажнасьці іх правадыроў, яны яшчэ вераць у магчымасьць аздаравіць ППС, яны яшчэ не пазбавіліся цалком паглядаў, якія ім гадамі ўпойвала іх сацыял-фашыстоўская партыя. У гэтых варунках перад нашай партарганізацыяй былі вялікія аб'ектыўныя магчымасьці на падставе правільнага прымяненьня тактыкі адзінага фронту і ўмелага разаблачэньня пэпэсоўскіх правадыроў на досьледзе гэтай стачкі, паглыбіць супярэчнасьці паміж нізамі і вярхамі ППС, стварыць запраўды адзіны фронт барацьбы пэпэсоўскіх рабочых, разам з безпартыйнымі і левымі рабочымі на падставе высунутых самімі масамі дамаганьняў, наўпракі сац.-фашыстоўскім правадыром. Задача нашай партарганізацыі заключалася у тым, каб на падставе штодзеннай працы, на канкрэтных уроках гэтай і папярэдніх стачак дапамагчы пэпэсоўскім рабочым вызбыцца ілюзій да іх соц.-фашыстоўскае партыі, пераканаць у правільнасьці нашых лёзунгаў. Партарганізацыя павінна была зьвярнуцца са спэцыяльным заклікам да пэпэсоўскіх рабочых, уцягваць іх у забастовачныя камітэты, рабочыя пікеты, самаабарону і г. д. і ў ходзе супольнай барацьбы на дзеле выказаць правільнасьць нашага кіраўніцтва, конфронтаваць пэпэсоўскіх рабочых з іх правадырамі, выяўляючы ўсю іх ілжывасьць і прадажнасьць а не зачынаць, як гэта мела мейсца, ад прад'яўленьня варункаў, як неадкладнае выступленьне супроць сваіх правадыроў, выступленьне з пэпэсоўскай арганізацыі ТУР'а, распаўсюджываньне нашай партыйнай літэратуры і т.п. Зразуменьня гэтага ня было ў паасобных адказных таварышоў, дзякуючы чаму спрыяючыя аб'ектыўныя умовы ня былі адпаведна выкарыстаны; гэты левацкі падыход ня мог спрыяць паскарэньню працэсу адыхода пэпэсоўскіх нізоў ад іх правадыроў.

Значэньне гераічнай забастоўкі лесарубаў Белавескай Пушчы—гэтай аднэй з буйнейшых забастовак на ЗБ у мінулым годзе—вялізарнае. Яе досьлед павінен быць шырака спапулярызаваны ва ўсёй нашай партыі.

Перад Беластоцкай партарганізацыяй, а асабліва перад Белавеска-Гайнаўскім РК, стаіць задача замацаваньня асягнутых намі пасьпехаў. Трэба замацаваць і узмоцніць сувязі з лясnымі рабочымі, стварыць шэраг ячэяк сярод лесарубаў, правільна выкарыстаць выявіўшыся ў часе стачкі партыйны і беспартыйны актыў. РК павінен шмат больш удзеліць увагі пытаньням арганізацыі барацьбы рабочых, якая да гэтага часу была вельмі слабай, узмоцніць нашу працу на тартаках і хэмічнай фабрыцы. Ударнай задачай зьяўляецца ўзмацненьне нашых уплываў у профсаюзе, стварэньне там рэвалюцыйнай профопозыцыі, стварэньне груп профлявіцы на тартаках, хімічнай фабрыцы, сярод лесарубаў. Трэба правясьці шырокую акцыю разаблачэньня ППС, выкарыстоўваючы досьлед гэтай і папярэдніх стачак, узмоцніць барацьбу за пэпсоўскіх рабочых, актыўна ўплываць на існуючую там апазыцыю і паскараць працэс раскладу ППС-оўскай арганізацыі. Адначасна трэба рашуча змагацца супроць апартуністычных хістаньняў адносна да левай фразы і манэўраў ППС. Трэба зактывізаваць усю партарганізацыю і ужо цяпер пачаць рыхтавацца да новых баёў, да адбіцьця новых атак капіталу.

---

**МЫ ПАВІННЫ ДАПОЎНІЦЬ ЭНТУЗІЯЗМАМ, ПАФАСАМ АСВАЕНЬНЯ НОВЫХ ЗАВОДАЎ І НОВАЙ ТЭХНІКІ, СУР'ЁЗНЫМ УЗЬНЯЦЬЦЕМ ПРАДУКЦЫЙНАСЬЦІ ПРАЦЫ, СУР'ЁЗНЫМ СКАРАЧЭНЬНЕМ САБЕКОШТУ. У ГЭТЫМ ЦЯПЕР ГАЛОЎНАЕ.**

**ЦЯПЕР ПЫТАНЬНЕ СТАІЦЬ УЖО НЕ АБ ТЫМ — БЫЦЬ ЦІ НЯ БЫЦЬ КАЛГАСАМ, — ГЭТА ПЫТАНЬНЕ ЎЖО ВЫРАШАНА СТАНОЎЧА. КАЛГАСЫ ЗАМАЦАВАНЫ І ШЛЯХ ДА СТАРОЙ АДНААСОБНАЙ ГАСПАДАРКІ ЗАКРЫТ КАНЧАТКОВА. ЦЯПЕР ЗАДАЧА ЗАКЛЮЧАЕЦЦА Ў ТЫМ, КАБ УМАЦАВАЦЬ КАЛГАСЫ АРГАНІЗАЦЫЙНА, ВЫШЫБІЦЬ АДТУЛЬ ШКОДНІЦКІЯ ЭЛЕМЭНТЫ, ПАДАБРАЦЬ САПРАЎДНЫЯ ПРАВЕРАНЫЯ БАЛЬШАВІЦКІЯ КАДРЫ ДЛЯ КАЛГАСАЎ І ЗРАБІЦЬ КАЛГАСЫ САПРАЎДЫ БАЛЬШАВІЦКІМІ. У ГЭТЫМ ЦЯПЕР ГАЛОЎНАЕ.**

*(З даклада т. Сталіна на пленуме ЦК УсеКП(б) 7-І-1933 г.).*

---

# „Асноўныя масы беспрацоўных яшчэ не ўцягнуты ў барацьбу"

**Вельмі слабае зарганізаванае напружаньне партыі ў справе ўзьняцьця кіраўніцтва і расшырэньня руху беспрацоўных. Асноўныя масы беспрацоўных яшчэ не ўцягнуты ў барацьбу. У той час, калі буржуазія імкнецца супроцьставіць беспрацоўных яшчэ працуючым, дык каардынацыя іх барацьбы ёсьць неабходным варункам пераможнага адпору атакам капіталу на ўсю рабочую клясу. Шырокі ўдзел беспрацоўных у апошніх забастовачных баёх паказвае на вялікія магчымасьці спалучэньня сіл пралетарыяту.** (З рэзалюцыі VI Зьезду КПП).

**Барацьбу мас беспрацоўных трэба арганізаваць каля наступных падставовых дамаганьняў: дзяржаўнай дапамогі для ўсіх беспрацоўных гораду і вёскі, супроць пазбаўленьня і ўрэзваньня атрымоўваемых дапамог, за іх павялічэньне, за аднаразовую дапамогу на зіму, супроць эксмісіяў і рознага роду падаткаў, звальненьне ад каморнага, бесплатны апал і вопратку для беспрацоўных, бесплатную школу і кармленьне дзяцей беспрацоўных, супроць адработак за атрыманую дапамогу. Гэтыя дамаганьні трэба на мясцох канкрэтызаваць у залежнасьці ад варункаў, у залежнасьці ад найбольш пякучых балячак беспрацоўных мас: кухня, абеды, трэбаваньне абедаў для сем'яў, выданьне сухіх прадуктаў і т. п. Да гэтай працы трэба ўнесьці ПЛЯНАВАСЬЦЬ і СЫСТЭМАТЫЧНАСЬЦЬ, ні ў якім разе не абмяжоўваючыся толькі кампаніямі.** (VI пленума ЦК КПЗБ).

**Спэцыяльную ўвагу трэба зьвярнуць на справу АРГАНІЗАВАНЬНЯ КАНФІСКАТ, якія стыхійна што-раз больш расшыраюцца. Гэтаму руху трэба прыдаць масавы і арганізаваны характар.**

**Непасрэднае кіраўніцтва барацьбой знаходзіцца ў руках камітэтаў беспрацоўных. Партарганізацыі надаюць кірунак барацьбе і забясьпечваюць свой кантроль у гэтых камітэтах праз камуністычныя фракцыі. Склад камітэтаў беспрацоўных, як і сама акцыя павінна мець як найбольш шырокі характар адзінафронтовы праз удзел у іх нізавікоў ППС'аўцаў, бундаўцаў, НПР'оўцаў і членаў Строніцтва Людовега і т. п.** (З цыркуляра ЦК КПП).

# БЯГУЧЫЯ АКЦЫІ

## НЕ ДАПУСЬЦІМ ДА ПРАВЯДЗЕНЬНЯ ЗАКОНУ АБ „СТАВАЖЫШЭНЯХ"

1-га студзеня гэтага году вышоў новы закон аб таварыствах і сабраньнях. Згодна гэтаму закону усе існуючыя рабочыя арганізацыі — прафсаюзы, чытальні, культурна-прасьветныя, рабочыя клюбы, нацыянальна-вызваленчыя арганізацыі, спартыўныя і іншыя падлягаюць самаму суроваму кантролю і нагляду з боку паліцыі і дэфэнзывы. Паліцыя мае права трэбаваць сьпіскаў усіх членоў даннай арганізацыі, пратаколаў усіх паседжаньняў, справаздачы аб дзейнасьці, грашовыя справаздачы і інш. Паліцыя пасылае сваіх наглядальнікаў на паседжаньні гэтых арганізацый, якія маюць права ўмешвацца ў самыя найменшыя справы гэтых арганізацый. Зразумела, што ў гэтым законе выгаражваюцца прафсаюзы і арганізацыі, якія супрацоўнічаюць з урадам.

Згодна гэтаму закону ладжаньне спэктакляў, вечары і т. п. паліцыя дае манапольнае права для розных дзяржаўных арганізацый. Так напрыклад у вёсках ладжаньне спэктакляў і вечарын паліцыя перадае ў манапольнае права «Стральцу», «Кулка млодзежы вейскей» і т. п.

Фашыстоўскі ўрад усё больш адчувае сябе ізаляваным сярод шырокіх слаёў працоўных мас і дзеля таго шалёна хватаецца за масавы тэрар, выдае ўсё новыя законы накшталт аб «ставажышэнях», аб палявых судох у арміі, каб кроўю і жалезам трымаць у пакорнасьці працоўныя масы, якія наперакор фашыстоўскаму тэрару з кожным днём усё больш актыўна выступаюць за зваленьне фашыстоўскай дыктатуры, за дыктатуру пралетарыята.

Новы закон аб «ставажышэнях» павінен стаць зацэпным пунктам для таго, каб партарганізацыі разгарнулі узмоцненую палітычную кампанію супроць **разгула белага тэрару**, супроць **масавых ра-**

**стрэлаў і пацыфікацый** супроць **новага «кодэкса карнага» і турэмнага рэгуляміну,** супроць **увядзеньня ваеннага палажэньня** (Варшава, Лодзь, Торунь, Палесьсе) і **ваенна-палявых судоў** для салдат, для рабочых і служачых, працуючых у ваеннай прамысловасьці і транспарце.

Гэта кампанія набірае асаблівую актуальнасьць і важнасьць у нас на ЗБ, дзе разгул белага тэрару мае надзвычайна вострыя масавыя формы і дзе да гэтага часу партарганізацыі не здалелі разгарнуць кампаніі пратэсту супроць пацыфікацыі і ў цэлым шэрагу раёнаў ЗБ і Украіны. Акцыя барацьбы супроць белага тэрару павінна быць увязана з барацьбой **супроць ліквідацыі сацыяльнага забесьпячэньня, супроць падаткаў, барацьбой за зямлю бяз выкупу, з нацыянальна-вызваленчай барацьбой, з барацьбой супроць падрыхтоўкі вайны.**

У гэтай кампаніі партарганізацыі разгортваюць масавыя сходы, мітынгі, робячы націск на масавую працу сярод чыгуначнікаў на фабрыках і заводах, прымаць рэзалюцыі пратэсту, ладзіць забастоўкі - пратэсту (аднагадзінных, поўгадзінных, 10-мінутных) і ўлічваючы настрой мас, выводзіць на дэманстрацыі, на супольную барацьбу з беспрацоўнымі, на завяваньне вуліцы. Папулярызуючы лёзунг усеагульнай палітычнай забастоўкі пратэсту супроць тэрару, трымаць курс на яго рэалізацыю па меры нарастаньня пратэстацыйнай забастовачнай хвалі.

Неабходна на сходах, на ўсіх масавых выступленьнях выбіраць адзінафронтовыя камітэты акцыі, уцягваючы ў іх нізавых рабочых, якія знаходзяцца яшчэ пад уплывам сацыял-фашызма і народніка-фашыстоўскіх партыяў.

Не пакладаючы рук разгорнем масавую акцыю барацьбы супроць белага фашыстоўскага тэрару.

## АРГАНІЗАВАЦЬ І ПАШЫРЫЦЬ БАРАЦЬБУ ЛЯСНЫХ РАБОЧЫХ

### ТРЭБА ЛІКВІДАВАЦЬ АДСТАВАНЬНЕ.

**На ЗБ мае сталую традыцыю барацьба рабочых пры лесараспрацоўках (дравасекі, возчыкі), У гэтым годзе маем асабліва і арганізаванае іх выступленьне. Пабач з закончанай забастоўкай 4.000 лесарубаў у Белавежы там-жа працягвае яшчэ забастоўку ўжо адзінаццаты тыдзень больш 20 вёсак. Такой-жа забастоўкаю ў Пружаншчыне ад 9 сьнежня ахоплена больш 30 вёсак, дзе выбраны ўжо адзінаццаць забастовачных камітэтаў.**

**У мясцох, ахопленых забастоўкай сяляне змагаюцца ня толькі за павышэньне зарплаты пры возцы дроў, але расшыраюць барацьбу супроць падаткаў і іншых балячак вёскі. У вёсках Сілічы, Мокрыя Казлы, Замошша, Нясьцеркі, Баравікі і інш. былі зарганізаваныя адпоры сэквэстратарам і паліцыі ня толькі аднэй вёскі, але і акаляючых.**

**Усе гэтыя факты кажуць аб шырокай магчымасьці разгарнуць барацьбу лясных рабочых, пашырыць і завастрыць яе. А ППС спэкулюе на нэндзы мас і адстайвае інтарэсы прадпрыемцаў і фашыстоўскай дзяржавы. Іхні «Роботнік» зьвяртаецца да ўраду шыбеніц і акупацыі за садзейнічаньнем, «бо дзяржава нясе ўрон, бо дрэва на час ня будзе дастаўлена ў тартакі».**

**Забастоўкі лесарубаў і возчыкаў павінны паслужыць пунктам выхаду для арганізацыі барацьбы шматлікага на Заходняй Беларусі атраду лясных, сельска-гаспадарчых і сэзонных рабочых. Трэба з карэньнем вырваць існуючую яшчэ да гэтага часу ў шэрагах нашай партыі недаацэнку значэньня арганізацыі барацьбы гэтага вельмі важнага ў варунках Заходняй Беларусі атраду рабочае клясы.**

**ПАРТАРГАНІЗАЦЫІ НА МЯСЦОХ ДЫ КОЖНЫ КАМУНІСТ, БОЛЬШ УВАГІ ГЭТАМУ ВУЧАСТКУ БАРАЦЬБЫ!**

**КАМПАРТЫІ ПАВІННЫ ВЕСЬЦІ НЕПРЫМІРЫМУЮ БАЛЬШАВІЦКУЮ БАРАЦЬБУ Ў СВАІХ РАДОХ СУПРОЦЬ АПАРТУНІСТЫЧНАЙ НЕДААЦЭНКІ ВАЕННАЙ НЕБЯСЬПЕКІ, СУПРОЦЬ АПАРТУНІСТЫЧНАЙ ПАСЫЎНАСЬЦІ Ў СПРАВЕ БАРАЦЬБЫ, СУПРОЦЬ ІМПЭРЫЯЛІСТЫЧНАЙ ВАЙНЫ І ВАЕННАЙ ІНТЭРВЭНЦЫІ І СУПРОЦЬ МНІМА ЛЕВЫХ ФАТАЛІСТЫЧНЫХ АДНОСІН ДА ВАЙНЫ.**

(XII пленум ВК Комінтэрну)

# ПРАЦА НА ВЁСЦЫ

## АРГАНІЗУЙМА БАРАЦЬБУ ГАЛАДУЮЧАЙ ВЁСКІ

**Цяпер на вёсцы вельмі дрэнна, а можа быць безнадзейна. Няма працы, голад крызыс на вёсцы з эканамічнага ператвараецца ў сац.-палітычны.** (Дз. Вілен. № 322)

**Арганізацыя масавых выступленьняў (сходы, галодныя паходы, дэманстрацыі) пад лёзунгамі канфіскацыі хлеба ў абшарнікаў і падзел яго праз сялянскія камітэты паміж галадуючых мас, беззваротнай дзяржаўнай дапамогі для галадуючых і пацярпеўшых ад неўраджаю ды стыхійных злыбед (градабіцьце, паводкі, пажары і інш.) збажжам, насеньнем і грашмі.** (VI пленум ЦК КПЗБ).

Голад на вёсцы Заходняй Беларусі сёлета мае асабліва вострыя формы. Справаздачы з месц падаюць аб вельмі цяжкім становішчы шырокіх сялянскіх мас, якое вясной бязумоўна прыме яшчэ больш паграseveralжаючыя паўсямесныя разьмеры. У большасьці сялянскіх гаспадарак ужо няма ня толькі хлеба, але і бульбы, **ня будзе НАСЕНЬНЯ на засеў.**

Па вёсках жыруюць розныя фашыстоўскія арганізацыі, якія праводзяць часта-густа насільныя і прымусовыя сборы, маскуючы іх рознымі дабрачыннымі мэтамі, як сбор на беспрацоўных, галадуючых і т. п.

Дэмаскуючы фашыстоўскую акцыю, якая па сутнасьці вядзе да яшчэ большага аграбленьня працоўных мас і ўзбагачваньня кулацтва і розных фашыстоўскіх прахадзімцаў, неабходна мабілізаваць масы вёскі на захоп **ХЛЕБА** ды **НАСЕНЬНЯ** з панскіх і казённых складаў, **МАСАВУЮ ПАРУБКУ** панскага і скарбовага **ЛЕСУ.** Кожная ячэйка, кожная партарганізацыя павінна правясьці шырокую акцыю ў кожнай вёсцы і ў акаляючых вёсках, правясьці растлумачальную працу пры пасрэдстве лістовак, мітынгаў, сходаў, паасобнай агітацыі. На масавых выступленьнях выбіраць **камітэты па барацьбе з голадам.** Камітэты ладзяць масавыя паходы да гмін, староstваў, дамагаючыся дзяржаўнай беззваротнай дапамогі, паходы да фабрык, кашар з заклікам да супольнай салідарнай барацьбы. Трэба пільна зьвярнуць увагу, каб гэтыя камітэты былі **актыўнымі арганізатарамі** барацьбы мас, дзеля чаго сачыць, каб у камітэтах быў строгі падзел функцый, калектыўная праца, сыстэматычныя паседжаньні, справаздаўчасьць перад масамі. У ходзе падрыхтоўкі наладзіць дружыны масавай самаабароны і разгарнуць арганізацыю чырвоных ганцоў. Падрыхтаваныя і зарганізаваныя такім чынам масы павесьці на захоп складаў, масавай парубкі лесу і падзелу гэтага праз сялянскія камітэты сярод бядоты і галадуючых.

Аднак, могуць быць і такія абставіны, калі масы **ўжо** гатовы пайсьці на захоп складаў і лесу, калі масы **ўжо** маюць вопыт такой барацьбы. У такіх выпадках праступна будзе з боку партыйцаў не падхапіць гэтых настрояў, не арганізаваць гэтую барацьбу.

Ва ўсякіх выпадках барацьбы галадуючай вёскі трэба ўсямерна старацца падрыхтаваць выступленьне парабкоў па маёнтках, уцягваць іх у камітэты барацьбы, выстаўляць іх дамаганьні. Для ўцягваньня парабкоў на супольную барацьбу з сялянамі, да захопу абшарніцкіх складаў трэба асабліва выкарыстоўваць нявыплату і круцельства абшарнікаў у зарплаце парабкоў, што мае бадай паўсямеснае зьявішча.

## РАЗГАРНУЦЬ БАРАЦЬБУ СУПРОЦЬ АПЛАТ І ШТРАФАЎ

Выкараненьне непрыхільных пагардлівых адносін да стыхійных формаў барацьбы (як напрыклад, падпалы абшарніцкіх маёнткаў, байкот рынкавых пабораў і інш.), падтрыманьне іх без засьцярогаў і скіраваньне ў рэчышча арганізаваных масавых выступленьняў (VI пленум ЦК КПЗБ).

У караной Польшчы і на ЗУ масавая барацьба працоўнага сялянства супроць розных аплат (дроговых, мастовых, капытковых і т.п.) прыймаюць усё больш шырокія разьмеры ў форме забастовак, байкота і перарастаюць часта ў адкрытыя канфлікты з фашыстоўскім рэжымам, у крывавыя сутычкі з паліцыяй (Ядаў, Лодзь, Варшава і т. п.). У нас на ЗБ аб такіх выступленьнях бадай зусім ня чутно. Асноўная прычына гэтаму адставаньню тая, што нашыя вясковыя партарганізацыі недастаткова альбо наогул ніякай увагі не ўдзяляюць гэтым пытаньням, што партарганізацыі не арганізуюць барацьбу сялянскіх мас су-

проць гэтых відаў фашыстоўска-акупанцкага грабежніцтва.

Вось прыклады аплаты штрафаў:

**1. За ўезд у мястэчка або горад на рынак спаганяецца аплата 20 грошай.**

**2. Калі селянін вядзе на продаж каня, карову альбо сьвіньню ён павінен заплаціць за кожную штуку 1 зл. капытковых і апрача таго мець яшчэ так зв. «сьвядэцтва паходзэньня», за якія аплачвае ў гміне 50 гр. Гэтае сьвядэцтва мае сілу толькі 10 дзён, пасьля гэтага тэрміна трэба браць новае, а калі селянін такога ня мае, плаціць 5 зл. штрафу.**

**3. Па вёсках уводзіцца ў абавязак кожнай сялянскай хаце мець прыбітую досачку, за якую трэба плаціць 80 гр. На такой досачцы павінна быць нарысавана лапата, багор, вяроўка — усе гэтыя прылады абавязкова павінен мець селянін у падрхытаваным месцы. За невыкананьне гэтага паліцыя штрафуе ад 5 да 10 зл.**

**4. Узімку ўсе сяляне павінны мець званкі ў часе выезду. Пры адсутнасьці званка штрафуецца у 3-5 зл.**

**5. Пры падтрыманьні якой-небудзь паперкі ў гміне гмінныя ўлады наклейваюць маркі ў 10-20 гр. у прымусовым парадку.**

**6. Начныя варты, якія цяпер зьяўляюцца абавязковымі па ўсіх вёсках адпавядаюць за папсаваньне тэлефонных і тэлеграфных дротаў, за раскіданую камуністычную літаратуру і г. д. За невыхад на варту штрафуецца ў 25 зл.**

Усе гэтыя штрафы і аплаты зьяўляюцца складовай часткай панаваньня крывавай акупацыі і выклікаюць шырокае нездавольства мас. Аб тым, што працоўныя сяляне ахотна выступаюць на барацьбу супроць гэтых формаў грабежа і закабаленьня сьведчаць факты з Навагрудчыны. Мясцовым арганізацыям удалося шляхам скліканьня некалькі масовак арганізаваць сялянства вёсак Смолічы, Белая, Тупалы, Жукі (Карэліцкага раёну) на рашучы адпор купляць новыя пажарныя досачкі.

Неправідловым зьяўляецца ўстаноўка, быццам форма забастоўкі-байкоту, якія стыхійна ўзьнікаюць і прымяняюцца працоўным сялянствам у барацьбе супроць фашыстоўска-абшарніцкага грабяжу зьяўляецца не нашай формай барацьбы. Гэта сэктанцкі падыход. Кожная форма барацьбы мас, накіраваная супроць акупацыі і абшарніцка-кулацкай кабалы зьяўляецца рэвалюцыйнай барацьбой і партыя павінна яе **падтрымоўваць, стаць на яе чале.** Тое-ж самае і да забастовак сялян. Партыя іх арганізуе і ў працэсе барацьбы завастрае на масавай аснове да рашучых выступленьняў супроць паліцыі, увязваючы гэтую барацьбу з барацьбой супроць тэрару, крывавых пацыфікацый, вайны.

Партаарганізацыі павінны ўдзяліць максымум увагі самым дробным і найдрабнейшым пытаньням і балячкам працоўных мас вёскі, арганізоўваць іх для барацьбы за свае штодзённыя дамаганьні пад лёзунгам «ні граша рогатковых, капытковых і інш., далоў штрафы». Партарганізацыі павінны мабілізаваць масы праз прэсу шляхам масовак, сходаў, праз арганізацыю забастовак байкоту рынкаў на барацьбу з усялякімі відамі аплат і штрафаў, выстаўляць пікеты па дарогах і сачыць, каб байкот гэтых рынкаў быў бы паўсямесным, адначасна арганізаваць масавыя абозы, гуртавацца каля «рагатак», сілай прарываць іх.

У гэтай барацьбе партарганізацыі павінны дэмаскаваць здрадніцкую ролю народніцка-фашыстоўскіх партыяў (Строніцтва Людове і інш.), якія стараюцца сьцягнуць барацьбу супроць фашыстоўска-акупанцкага рэжыму на шлях антысэмітызму і антыгарадзкіх настрояў.

Са сваёй стараны мястэчковыя і гарадзкія партарганізацыі павінны дэманстрацыямі, масоўкамі і высылкай дэлегатаў салідарызавацца з барацьбой працоўных сялянскіх мас, памагаць ім прарывацца праз гарадзкія «рогаткі», ламаць рамкі белага тэрару і гэтым узмацоўваць рабоча-сялянскі саюз і гегемонію пралетарыята.

# СУПРОЦЬ НАЦЫЯНАЛЬНАГА ЎЦІСКУ

## УЗМОЦНІМ КАМПАНІЮ ВЫЗВАЛЕНЬНЯ ТАРАШКЕВІЧА

**Мы хочам зьмены ўсяго капіталістычнага ладу. Можаце мяне за гэта на сьмерць засудзіць але факт застаецца фактам, што капіталізм гніе, раскладаецца і на зьмену яму прыйдзе новая сацыялістычная сыстэма.**

(З прамовы Тарашкевіча на судзе).

**Як падае орган нацыянальна-вызваленчага руху «Барацьба», якая выходзе ў Бэрліне, працягваецца далей кампанія пратэсту беларускіх мас эмігрантаў у Францыі, Бэльгіі, Нямеччыне і іншых краёх супроць 8-мі гадовага катаржнага прысуду над Браніславам Тарашкевічам. Абавязкам нашых партыйных і камсамольскіх арганізацый зьяўляецца не дапусьціць да паслабленьня гэтай кампаніі на Заходняй Беларусі, якое наглядаецца ў некаторых акругох у зьвязку**

з закончаным працэсам над Тарашкевічам.

Справа Тарашкевіча ёсьць справа ўсяго нацыянальна-вызваленчга руху. Катаржны прысуд фашыстоўскага суда над ім ёсьць выяўленьнем агульнай акупацыйнай палітыкі грамленьня і душэньня нацыянальна-вызваленчай барацьбы эксплёатаваных і прыгнечаных беларускіх мас. Таму, супроць кожнага факту нацыянальнага ўціску, акупанцкага тэрару, палёнізацыі, мабілізаваць шырокія працоўныя масы ЗБ, увязваць з барацьбой супроць паняволеньня Тарашкевіча, супроць даразных судоў, дзікага вастрожнага ражыму, за вызваленьне ўсіх палітвязьняў.

Партыйныя арганізацыі, а таксама і камсамольскія павінны прыступіць да разгортваньня шырокай хвалі масовак, сходаў, дэманстрацыяў пад лёзунгам «зволніць Тарашкевіча—правадыра нацыянальна-вызваленчага руху». На ўсіх масавых выступленьнях прымаць рэзалюцыі пратэсту, пасылаць іх да пасольскай соймавай комфракцыі, да газэты «Барацьбы», «Бюляценю» ТБШ і іншых рабоча-сялянскіх газэт.

## АКУПАНТЫ І ЛУЦКЕВІЧЫ РЫХТУЮЦЬ ЗАЧЫНЕНЬНЕ ТБШ

Здэмаскаваная компартыяй і збанкрутаваная ў вачох мас газэта Луцкевічаўскай групы «Бел. Звон» ня даўна спыніла свае існаваньне.

Каб прадаўжаць роль здраднікаў бел. народу, каб выконваць заказ бел. буржуазіі і польскіх імпэрыялістаў Луцкевічаўская група пачала выдаваць новую шпрагалку пад назвай «Родны край» як «орган Таварыства Беларускай Асьветы».

Бел. нац.-фашысты супольным фронтам з акупантамі вядуць ужо некулькі год пагромную кампанію супроць ТБШ —масавай рабоча-сялянскай арганізацыі. У той час калі акупантызачыняюць паасобныя гурткі і акруговыя ўправы ТБШ, штрафуюць, арыштоўваюць членаў а на 1-га лютага рыхтуюць працэс над Галоўнай Управай дык Луцкевічы засноўваюць новую фашыстоўскую мышалоўку на масы—«ТБА» каб дэзорыентаваць масы, каб на выпадак закрыцьця ТБШ заманіваць членаў яго ў сваю контр-рэвалюцыйную кулацкую арганізацыю.

Задача партарганізацыяў разгорнутай масавай барацьбой папярэдзіць, недапусьціць да разгрому ТБШ, на кожную атаку фашыстаў і нац.-фашыстаў адказываць умасавеньнем ТБШ, узьняць кампанію масавага пратэсту супроць працэсу над Галоўнай Управай. Партарганізацыі ў сваёй штодзённай працы, ва ўсіх масавых кмпаніях павінны дэмаскаваць разбіяцкую работу Луцкевічаў, дэмаскаваць «ТБА» і орган «Родны Край».

У правядзеньні гэтай працы неабходна праявіць настойлівасьць і праводзіць сыстэматычную праверку выкананьня.

## УЗМОЦНІЦЬ ІНТЭРНАЦЫЯНАЛЬНАЕ ВЫХАВАНЬНЕ

Зноў як летась у Вільні адбыліся антысэміцкія напады. Буржуазія шавінізмам і антысэмітызмам хоча атруціць працоўных, каб адцягнуць іхную ўвагу ад сапраўдных катаў і віноўнікаў растучай нэндзы, беспрацоўя.

Нашыя партыйныя і камсамольскія арганізацыі вельмі мала рэагавалі і недастатковы адпор арганізавалі на антысэміцкія выпады, на шавіністычную антынямецкую траўлю. Толькі адна Віленская арганізацыя зрабіла тое-сёе.

Мы ня здолелі стварыць ІНТЭРНАЦЫЯНАЛЬНЫЯ ДРУЖЫНЫ МАСАВАЙ САМААБАРОНЫ і на дзеле паказаць яўрэйскай беднаце, што толькі адзіны рэвалюцыйны фронт усіх прыгнечаных, пад кіраўніцтвам пралетарыяту зьяўляецца сапраўднай абаронаю ад пагромаў.

Паасобныя праявы ўплыву атруты антысэмітызму на найбольш слабыя і менш выхаваныя палітычна элементы партыйнай арганізацыі (Вільня) сьведчаць аб недастатковай барацьбе з нашага боку з варожай ідэолёгіяй.

Мы павінны ўзьняць сыстэматычную барацьбу з атрутаю нацыяналізму і антысэмітызму. На кожны факт нацыянальнага ўціску і антысэмітрэба арганізаваць РАШУЧЫ АДПОР: праводзіць растлумачальную працу аб значэньні гэтых фактаў, супроцьстаўляючы нацыяналізму пралетарскі інтэрнацыяналізм, нашыя лёзунгі барацьбы за права паняволеных народаў да самавызначэньня аж да аддзяленьня ад Польшчы і раўнапраўя прыгнечаных народаў ды арганізацыя супроць фактаў нацыянальнага ўціску СУПОЛЬНЫЯ ВЫСТУПЛЕНЬНІ польскіх, беларускіх і яўрэйскіх працоўных мас.

Мы павінны праводзіць сыстэматычную працу дзеля таго, каб усьвядоміць усім зьвеньням нашай партыі бальшавіцкую пазыцыю ў нацыянальным пытаньні. У некаторых партыйных арганізацыях, між іншым у Вільні, арганізацыйны падзел і падзел на раёны стварае ў практыцы пэўныя нацыянальныя перагароды (існаваньне падвойных нацыянальных ячэяк гэтага-ж самага фаху і т. п.). Мы павінны ламаць гэтыя перагароды, набліжаць да сябе ў штодзённай партыйнай і камсамольскай працы працоўных усіх нацыянальнасьцяў.

ЦК будзе дамагацца ад кожнай партыйнай арганізацыі, а перадусім ад арганізацый Вільні, Беластоку і іншых гарадоў СПРАВАЗДАЧЫ АБ ПРАЦЫ Ў ГЭТЫМ НАПРАМКУ.

# Барацьба з правакацыяй і правакаманіяй

Дырэкцыя тартаку ў Гайнаўцы пад націскам рабочых змушана была выкінуць шпіка з заводу. Калі шпік заўважыў, што рабочыя хочуць яго пабіць, дык пад ахранай паліцыі ўцёк цягнікам з Гайнаўкі

У вёсцы Ліхатах, Кобрынскага раёну прышоў канфідэнт на вечарынку. Сабраўшаяся моладзь так яго пабіла, што ён ня мог пайсьці дамоў.

Рабочыя з беластоку ў прафсаюзе Іглы на адным сходзе выступілі супроць канфідэнта, які пад грозныя крыкі «вон правакатара» змушан быў уцячы.

(Са справаздачы з месц).

У Горадні на вуліцы быў застрэлены правакатар Лаўрэр. (З газэт).

Усё часьцей-гусьцей становяцца актыўныя выступленьні супроць шпікоў, канфідэнтаў і правакатараў, што зьяўляецца выразам награмаджанай у масах нянавісьці да дэфэнзывы і яе агентаў.

Дэфэнзыва ў барацьбе з разрастаючымся рэвалюцыйным рухам з свайго боку ўжывае ўсё новыя способы, каб увясьці ў шэрагах рабочае клясы і перадусім у шэрагах яе авангарду, Камуністычнай партыі, расклад, дэзарганізацыю і дэмаралізацыю.

Дэфэнзыва самымі рознастайнымі спосабамі змушае арыштаваных да згоды на супрацоўніцтва з ёю. Пры гэтым дэфэнзыва падыходзіць да кожнага ўпрост індывідуальна, выкарыстоўвае ўсе слабыя бакі арыштаванага: цемру, адсталасьць, трусасьць і г. д. Ёсьць нават нямала выпадкаў, калі дэфэнзыва грае на «хітрасьць» арыштаванага: дазваляе яму нібы абманваць яе. Арыштаваны выражае згоду на супрацоўніцтва з дэфэнзываю, думаючы, што як толькі ён вырвецца з яе рук, дык ні за што ня будзе выконваць загадаў дэфэнзывы і такім спосабам не зашкодзіць партыі. Але ён не разумее таго, што гэтым самым **ужо** зрабіў у дачыненьні да партыі найбольшае злачынства, што ён партыю ўжо здрадзіў.

Сыпачаства раўназначна згодзе на супрацоўніцтва з дэфэнзываю, і тое і другое зьяўляецца актам здрады і правакацыі, зьяўляецца адкрытай службаю дэфэнзыве. Бо дэфэнзыва ніколі ўжо ня выпусьціць з сваіх кіпцюроў таго, хто ёй даў подпіс на супрацоўніцтва. Пагрозамі арыштаваньня і пагрозамі скампрамэнтаваньня яго ў вачох былых таварышоў яна **змусіць** яго працаваць на яе карысьць. Але мала гэтага. Подпіс здабыты ад аднага з арыштаваных дэфэнзыва паказвае іншым арыштаваным, каб іх пахістаць, зламаць маральна і таксама змусіць да здрады.

Так, а не іначай ставіць гэтае пытаньне пастанова ЦК КПП ад лютага 1932 г. у справе барацьбы з правакацыяй, і так павінна яе ставіць кожная партыйная арганізацыя.

Але да сёньняшняга дня ня ўсе партыйныя арганізацыі разумеюць гэта. Ёсьць выпадкі, што нават адказныя таварышы не парываюць кантакта з асобаю, якая выразіла сваю згоду на супрацоўніцтва з дэфэнзывай, якая коштам здрады выйшла на волю. Такія адносіны да здраднікаў зьяўляюцца злачынствам перад партыяй. **Вінаватыя будуць прыцягнуты да суровай партыйнай адказнасьці.**

Адным з выпрабаваных сродкаў дэфэнзывы зьяўляецца **ўнясеньне панікі ў партыйную арганізацыю.** Ёсьць выпадкі, калі дэфэнзыва, даведаўшыся пра паасобны факт з партыйнага жыцьця, распускае праз сваіх конфідэнтаў чуткі ў партыю, што яна ведае пра ўсё, што яна дзейнічае ў данай партыйнай арганізацыі і ведае ўсіх яе членаў. Дэфэнзыва неаднакраць выкарыстоўвае з гэтай мэтаю лёгкавернасьць паасобных членаў партыі. У дэфэнзыве, напрыклад, кажуць арыштаванаму пра пэўны факт з яго партыйнай працы, выклікаючы ў ім такое ўражаньне, што дэфэнзыва пра яго, і ня толькі пра яго, усё ведае. У форме намёкаў, каб гэта выглядала так, як быццам яна мімавольна «прагаварылася» дэфэнзыва кідае падазрэньне на паважаных, адданых таварышоў, як правакатараў. Далей дэфэнзыва выпускае таго таварыша на волю, зразумелая рэч, каб ён гэтым выклікаў зусім несьвядома недаверра ў партыйнай арганізацыі. Такім спосабам дэфэнзыва стараецца з аднаго боку адцягнуць увагу ад сапраўднага правакатара, а з другога боку выклікаць паніку ў арганізацыі.

Праводзячы сталую, бясьперапынную і энэргічную барацьбу з правакацыяй, партыя павінна адначасна павесьці бязьлітасную барацьбу супроць **правакаманіі,** супроць тых, хто распаўсюджвае паніку, супроць такіх, якія, даведаўшыся, што

на пэўнай фабрыцы знаходзіцца правакатар, глядзяць ужо на ўсіх рабочых даннай фабрыкі, як на правакатараў, закідваюць партыйную працу—замест таго, каб наадварот, менавіта навакол гэтага факту мабілізаваць рабочых да барацьбы супроць правакацыі.

Нельга губіць галавы, нельга бачыць правакацыі і правакатараў там, дзе іх няма, бо гэтым толькі робіцца дапамога дэфэнзыве ў захоўваньні сапраўдных правакатараў.

Адным з важнейшых варункаў посьпяховай барацьбы з правакацыяй зьяўляецца ўзмацненьне канспірацыі: трэба караць за недастатковую каньспірацыю аж да выключэньні з партыі за балбатню, тых хто тыкае нос у партыйныя сэкрэты, зусім непатрэбныя яму для працы. Трэба з усёй суровасьцю захоўваць стары, заўсёды правільны прынцып: ведай толькі столькі і настолькі, наколькі гэта табе трэба ведаць для працы, але ня больш.

Трэба абавязкова павесьці растлумачальную працу ва ўсіх ячэйках, асабліва ў вясковых і местачковых ячэйках, аб мэтадах дэфэнзывы і аб сродках барацьбы з імі. Пры гэтым трэба даваць прыклады фактаў, якія мелі месца ў данай вёсцы, мястэчку, альбо ў бліжэйшай ваколіцы і якія вядомы членам данай арганізацыі. Кожны член партыі павінен ведаць, як трымацца ў дэфэнзыве, каб не пашкодзіць партыі хоць бы несьвядома, каб не даць сябе заблытаць і пахіснуць маною перад дэфэнзыўшчыкамі.

Трэба павялічыць дамаганьні да кожнага рэвалюцыянэра, уступаючага ў партыю з боку яго вытрыманасьці. Асаблівую ўвагу трэба накіраваць на сыстэматычнае выхаваньне новых членаў партыі ў прынцыпах самай суровай канспірацыі.

# КАМСАМОЛЬСКАЯ СТАРОНКА

## БЛІЖЭЙШЫЯ ЗАДАЧЫ КАМСАМОЛУ ЗАХОДНЯЙ БЕЛАРУСІ

VI зьезд КПП і VI пленум КПЗБ ставіць перад камсамолам задачу заваяваньня **ў бліжэйшы пэрыяд** большасьці рабочай моладзі, разьбіць масавую базу сацыял- і нацыянал-фашыстоўскіх і фашыстоўскіх арганізацый моладзі. Не як агульная дырэктыва, не як пытаньне далёкай пэрспэктывы, а як канкрэтная задача дня, для ажыцьцяўленьня якой неабходна накіраваць і перабудаваць работу ўсіх арганізацый. Бо ў сучаснай сытуацыі, калі «непасрэдна падыходзім да рэвалюцыйнага крызысу» (VI Зьезд) ажыцьцяўленьне ў найкарацейшы тэрмін задачы, выраше аб выніках і ролі камсамолу ў надыходзячых баёх.

Усе асноўныя слабасьці КСМ яскрава выявіліся на фоне падзеяў апошніх месяцаў у клясавай барацьбе. Самым пагражаючым для КСМ зьяўляецца той факт, што ў буйных забастоўках тэкстыльшчыкаў у Беластоку (нават пасьля урокаў усеагульнай забастоўкі) у забастоўках гутнікаў, шаўцоў і ў апошняй гераічнай забастоўцы 4.000 белавескіх рабочых, дзе рабочая моладзь бязумоўна актыўна ўдзельнічала ў гэтых баёх,—роля Камсамолу была вельмі нязначная. Асноўнай прычынай гэтага зьяўляецца адрыў КСМ ад рашаючых буйных і сярэдніх прадпрыемстваў, г. зн. адрыў ад **асноўных мас** рабочай моладзі. **Канцэнтраваць нашы сілы і працу перш за ўсё на рашаючых буйных і сярэдніх прадпрыемствах, канкрэтызуючы задачы кожнай ячэйкі ў галіне маладзёных дамаганьняў,** — вось першарадная наша задача.

Неабходна **сыстэматычная, упартая падрыхтоўка** эканамічнай барацьбы, што азначае ўмела паставіць **патрабаваньні** моладзі **змагацца за іх правядзеньне ў жыцьцё.**

Неабходна на падставе адзінага фронту зьнізу выбіраць **органы барацьбы — забастовачныя камісіі моладзі** пад кіраўніцтвам агульных забастовачных камітэтаў, якія-б арганізоўвалі і ўвязвалі з масавымі выступленьнямі галадуючай беспрацоўнай моладзі гораду і вёскі; умасавіць профлевую моладзі, ствараючы юнсэкцыі пры рэвалюцыйных і рэфармісцкіх прафсаюзах «на падставе патрабаваньняў моладзі арганізаваць і кіраваць забастовачнай барацьбой, пашырыць і завострыць гэтую барацьбу» (VI пленум).

Аднэй з важных прычын нашай значнай адарванасьці ад асноўнай масы працоўнай моладзі зьяўляецца **недаацэнка працы, адрыў ад моладзі, якая знаходзіцца ў варожых арганізацыях.** Вялікая

частка моладзі, значна больш, чым звычайна думаем, арганізавана, але арганізавана не намі, а клясавым ворагам На кожнай ячэйцы, РК, АК і ЦК спэцыяльна ставіць пытаньне варожых арганізацый, дакладна выясьніць іх сілы, распрацаваць асобныя мэтады, формы і спосабы работы ў кожнай канкрэтнай арганізацыі. **Без масавай работы ў варожых арганізацыях ня можа быць выканана задача заваяваньня большасьці працоўнай моладзі, задачы ператварэньня КСМ у масавую арганізацыю.**

Адзіны фронт зьнізу на аснове барацьбы за штодзённыя эканамічныя і палітычныя дамаганьні, **пастаянная антываенная барацьба,** сыстэматычная масавая кампанія вакол антываеннага кангрэсу моладзі павінна служыць рычагом для вырываньня шмат тысяч моладзі з варожых арганізацый і разьбіцьця іх.

VI Зьезд і VI Пленум з асаблівай сілай ставяць перад КСМ ЗБ неабходнасьць ажыцьцяўленьня «павароту ў барацьбе супроць усялякай праявы акупанцкага ўціску» (VI Зьезд). І тут жыцьцё, барацьба апошняга часу найбольш рэзка падкрэсьлівае і выкрывае нашы слабасьці. У такіх вялікіх падзеях, як Камень-Кацырск, Асташына і інш. нічога ня ведаем аб ролі КСМ, як арганізатара і кіраўніка змагаючайся там моладзі. Гэта выкрывае перад намі вялікую пагрозу быць у хвасьце хутка насьпяваючых сялянскіх і нацыянальна-вызваленчых паўстаньняў. І тут мы павінны пачаць з канкрэтных масавых выступленьняў.

Удзел моладзі ў сялянскай і нацыянальна-вызваленчай барацьбе бязумоўна ўзрос. Мы маем, напрыклад, за апошні час дзесяткі фактаў школьных выступленьняў у вёсках супроць полёнізацыі, дзе-ні-дзе (Беластоцкая акруга) праганяюць зьненавіджных настаўнікаў. Нам трэба, для таго, каб разгарнуць сапраўдную барацьбу вакол нашых лёзунгаў: «школа на роднай мове», «прэч ненавісных настаўнікаў-палёнізатараў, вайсковых інструктароў» і інш., зачапіцца за гэтыя канкрэтныя выступленьні, стаць на чале іх, у ходзе барацьбы завастрыць яе, здалець выкарыстаць, папулярызаваць гэтыя падзеі для ўсёй ЗБ, разгортваць хвалю школьных забастовак, пераходзячы **на дзеле** да праганяньня зьненавіджаных настаўніц, палёнізатараў і г. д.

Трэба завастрыць увагу перад усімі арганізацыямі КСМ ЗБ над працай Чырвоных ганцоў, склікаць асаблівыя нарады дзеля падсумаваньня і выкарыстоўваньня іх вопыту і выяўленьня іх арганізацыйнага афармленьня. VI пленум высоўвае наступныя задачы перад чырвонымі ганцамі: «стварэньне масавай арганізацыі **чырвоных ганцоў** для цеснай сувязі паміж сялянскімі камітэтамі, для аблягчэньня хуткай мабілізацыі сялян суседніх вёсак і раёнаў на дапамогу ахопленым баямі вёскам, для абсэрвацыі за рухам фашыстоўскіх бандаў, паліцыі і карных атрадаў, для дапамогі ў справе зарганізаваньня гнуткай і своечасовай інфармацыі аб палітычных надзеях ва ўсім краю».

Найважнейшым варункам ажыцьцяўленьня задач, высунутых VI зьездам і VI пленумам перад КСМ ЗБ зьяўляецца палепшаньне сацыяльнага складу, перабудаваньне, палепшаньне сыстэму і мэтады работы, узьняцьцё актыўнасьці кожнага камсамольца для правядзеньня ў жыцьцё прынятых рашэньняў.

VI Зьезд высоўвае на першы плян галоўную слабасьць КСМ, менавіта: а) арганізацыйная слабасьць КСМ на фабрыках і фальварках, б) разыходжаньня паміж колькасным узростам вясковых арганізацый і іх актыўнасьцю, в) слабасьць ідэолёгічнай, плітычна-выхаваўчай работы. Гэта слабасьць выступае падвойна востра ў нас на ЗБ. Хоць маем вялікі колькасны рост КСМ, але фабрычная і фальварачная база ня толькі не паляпшаецца, але **адносна нават пагаршаецца. Без фабрычнай і фальварачнай базы КСМ ня здолее кіраваць эканамічнымі баямі моладзі, ня здолее ажыцьцявіць кіраўніцтва ў барацьбе сялянскай моладзі і нац.-вызваленчага руху моладзі.**

Актывізацыя ўсіх ячэяк, бліжэй кіраўніцтва да ячэяк, асаблівая ўвага і апека фабрычнымі і фальварачнымі ячэйкамі, ставіць іх прыкладам актыўнай масавай работы, плянавасьць, кантроль і вучот дзейнасьці кожнага камсамольца, ліквідаваць ножніцы паміж словам і справай, ўзяцца ўрэшце на кожнай ячэйцы за распрацоўку, канкрэтызацыю і выкананьне рашэньняў VI Зьезду і VI Пленуму, ацэньваць работу арганізацыі, ячэйкі і кожнага камсамольца па выніках працы, — толькі такім чынам КСМ здалее стаць сапраўды масавай арганізацыяй і кіраўніком працоўнай моладзі ў надыходзячых буйных клясавых баёх.

# СТАНЬМА НА ЧАЛЕ БАРАЦЬБЫ ШКОЛЬНАЙ МОЛАДЗІ

У мінулым годзе камсамол правёў шэраг школьных акцый і выступленьняў. З найбольшых можна назваць: **масоўкі і выступленьне звыш 100 вучняў беларусаў і палякаў у тэхнічнай школе ў Вільне, масоўкі і выбары вучнёўскіх камітэтаў у літоўскай гімназіі ў Вільне, 2-х дзенная стачка 80 яўрэйскіх дзяцей народнай школы ў Браславе, стачка 3-х клясаў у яўрэйскай прыватнай народнай школе ў Вільне, стачка ў завадовай школе Адэлі Гаке ў Вільне. У Беластоку адбылася стачка аднэй клясы народнай школы імя Гросэра. У Новай Бярозе (Беласточчына) 60 беларускіх дзяцей рэвалюцыйным выступленьнем у школе сарвалі фашыстоўскую школьную ўрачыстасьць, зьнішчылі партрэты Пілсудзкага і Масьціцкага, сьпявалі «Ад веку мы спалі» і «Будзённы». Падобныя выступленьні адбыліся за апошнія часы ў цэлым шэрагу іншых мясцавосьцяй: у Падгарэдзікм раёне (Піншчына) дзеці сарвалі чырвона-белы сьцяг, сьпявалі «Інтэрнацыянал», паліцыя арыштавала звыш дзесятка дзяцей, якія былі зьбіты на пастарунку (справаздача Пінскага інструктара КСМ). У Кобрынскім раёне (Бярэсьце) настаўніца запытала дзяцей: хто за вайну. За вайну выказаліся толькі трох, супроць — усе. А пасьля лекцыі дзеці напалі на гэтую тройку і добра іх пабілі. У вёсцы Буднікі (Бярэсьце) 11 лістапада ў дзень «непадлегласьці» сабралі дзяцей у царкву, далі ім цукерак і польскія нацыяналэістычныя флажкі. Па дарозе адзін з гэтых хлопчыкаў растлумачыў, што гэтыя флажкі азначаюць буржуяў, а іхні сьцяг — гэта чырвоны бальшавіцкі. Тады ўсе дзеці сарвалі белую частку з флажкоў, заставіўшы толькі чырвоную. Не хацеў сарваць толькі сын канфідэнта, якога дзеці пабілі (справаздача Берасьцейскага інструктара КСМ, лістапад 32 г.).**

Множацца выпадкі праганяньня асабліва зьненавіджаных палёнізатараў. У лістападзе месяцы ў Песчаніцкім раёне (Беласточчына) сабралася група дзяцей разам са сваімі бацькамі, накіраваліся пад памешканьне настаўніцы вядомай патрыёткі і палёнізатаркі. Маса выбіла шыбы. Зьненавіджаная палёнізатарка змушана была ўцячы з вёскі.

Гэтыя факты сьведчаць аб узросьце удзелу моладзі і дзяцей у нацыянальна-вызваленчай барацьбе.

Большасьць школьных выступленьняў на вёсцы мае стыхійны характар, хаця ячэйкі КСМ і паасобныя камсамольцы і піянэры бяруць у іх удзел. Яны аднак не арганізаваны намі, не падрыхтаваны і не кіраваны намі. Нягледзячы на пэўныя дасягненьні, КСМ не правёў ніводнай стачкі беларускіх дзяцей. Падрыхтаваная Віленскім камсамолам стачка ў беларускай гімназіі і сэмінарыі ў Вільні не дала вынікаў з прычыны слабай арганізацыйнай працы і слабага адпору тэрору нацыянал-фашыста Астроўскага і паліцыі. Улічныя выступленьні, дэманстрацыі перад віленскім куратарыумам ахапілі ледзь 60-80 чалавек. Школьная лявіца дагэтуль ледзь мадзее ў Вільні і Беластоку і ахоплівае мізэрную колькасьць беларускай і польскай моладзі.

Нашыя камсамольскія арганізацыі **занядбалі** пачатак гэтага школьнага году для таго каб разьвязаць масавую акцыю супроць нацыянальнага ўціску, за бясплатную школу ў роднай мове, супроць новага школьнага закону. Перад арганізацыямі КСМ стаіць цяпер важная задача неадкладна разгарнуць школьную акцыю.

Школьны куратарыум пасьлядоўна праводзіць у жыцьцё новы закон, адрэзваючы для новых пластоў рабочай, сялянскай і бедняцкай моладзі доступ у школу, узмацняючы рэжым тэрору, мілітарызацыі, палёнізацыі і клеру. У апошнія часы значна павышана плата за навучаньне, пагоршаны варункі навучаньня (скарачэньне бюджэту асьветы). Мы павінны выкарыстаць **кожны конкрэтны факт увядзеньня школьнага закону, кожны факт нацыянальнага ўціску і пагаршэньня варункаў навучаньня,** дзеля таго, каб разгарнуць барацьбу вучнёўскай беднаты, ужываючы формы байкоту лекцый, дэманстрацыйнага не адказваньня, дамаганьня бясплатнага сьнеданьня, падручнікаў, абутку, масавага ўходу з лекцый, размаўленьня «явачным парадкам» на беларускай мове ў школе, стараючыся ў ходзе акцыі давесьці да масавай **ШКОЛЬНАЙ ЗАБАСТОЎКІ** і вулічных дэманстрацый.

Нашыя школьныя ячэйкі, школьная лявіца павінны на школьным тэрэне ажыцьцяўляць адзіны фронт барацьбы, уцягваючы ў акцыю вучнёўскую беднату бяз розьніцы іх пераканаьняў і палітычных сымпатый, не навязваючы ім зьверху умоваў, і нашае фактычнае кіраўніцтва праводзіць не шляхам дэкламаваньня аб гэтым, а ў штодзеннай практычнай працы.

Наш досьлед і факты выступленьняў трэба шырока папулярызаваць сярод найшырэйшых пластоў вучнеўскай беднаты. АК, РК і ячэйкі павінны паставіць канкрэтна справу школьнай акцыі, абгаварыць і падрабязна распрацаваць плян дзе і як праводзіць акцыі, канцантруючы свае сілы на вучастках найбольш важных і прыступаючы на дзеле да рэанакрэсьленых плянаў.

## АНТЫВАЕННЫ КАНГРЭС МОЛАДЗІ

Парыскі антываенны камітэт на чале з Анры Барбюс, вылучаны Амстэрдамскім кангрэсам, склікае летам 1933 году антываенны кангрэс моладзі. На гэты кангрэс запрашаюцца арганізацыі моладзі ўсіх краёў, гатовыя весьці барацьбу супроць імпэрыялістычнай вайны ў адпаведнасьці з маніфэстам Амстэрдамскага кангрэсу.

Кангрэс гэты будзе выразьнікам адзінага фронту ў барацьбе супроць імпэрыялістычнай вайны ўсіх маладых рабочых і сялян усіх нацыянальнасьцяў бяз палітычных пераконаньняў.

КСМ ЗБ павінен усямерна садзейнічаць разгортваньню гэтага масавага антываеннага руху моладзі, уцягваючы ў гэтую барацьбу новыя пласты працоўнай моладзі. На фабрыках, у прафсаюзах, сярод беспрацоўнай моладзі ў маёнтках і вёсках, у школах, сярод дробна-буразнай беднаты і інтэлігенцыі, у КЛЮБАХ, ПАМЕШКАНЬНЯХ ВАРОЖЫХ АРГАНІЗАЦЫЙ, СЯРОД РЭКРУТАЎ І Ў АРМІІ, усюды дзе зьбіраецца моладзь—мы павінны арганізоўваць масоўкі, несьці вестку аб падыходзячым антываенным кангрэсе працоўнай моладзі ўсяго сьвету.

На масоўках моладзь павінна прыймаць рэзалюцыі, адсылаць іх у Парыскі камітэт, абіраць на сваіх масоўках і выступленьнях вылучаных з самой масы дэлегатоў, АНТЫВАЕННЫЯ КАМІТЭТЫ МОЛАДЗІ, якія складаюцца з выбраных прадстаўнікоў моладзі ад фабрык і вёсак, беспрацоўных, прадстаўнікоў юнсэкцый, моладзі варожых арганізацый, вучнёўскай, інтэлігенцыі і г. д. Дзеля каардынацыі барацьбы на падставе адзінага фронту ўсёй працоўнай моладзі, якая гатова змагацца супроць вайны, арганізаваць гарадзкія, гмінныя, раённыя канфэрэнцыі дэлегатаў антываенных камітэтаў, пашырыць арганізацыйны ахоп барацьбы аж да выбараў акруговых і цэнтральных антываенных камітэтаў моладзі Заходняй Беларусі.

У гэтай мабілізацыі моладзі да антываеннага кангрэсу, ва ўвязцы са штодзённай эканамічнай палітычнай і нацыянальна-вызваленчай барацьбой рабочай моладзі,—мы павінны дабіцца прарыву фронту нашых ворагаў, уцягнуць у антываенны фронт, напракі сваіх правадыроў, масу моладзі тураўскай, цукунфтоўскай, нацыянал-фашыстоўскай, стралецкай, спартыўнай, рэлігійных і г. д. Усю гэтую масавую працу мы павінны ўвязаць з узросшай канкрэтнай небясьпекай вайны, з барацьбой супроць новага дэкрэту аб ваенна-палявых судох у арміі, павінны канцэнтраваць нашы сілы на працу ўнутры арміі умасавіць саюз пабаровых, асабліва ў сувязі з бліжэйшым наборам сакавік-красавік м.м. г.г.

## РАЗГАРНУЦЬ ПРАЦУ КСМ Ў АРМІІ

У шэрагах КСМ распаўсюджаны апартунізм на практыцы ў справе працы КСМ УНУТРЫ АРМІІ, супроць чаго мы павінны весьці барацьбу. Уцёрся ў шэрагі КСМ ЗБ няправільны пагляд, быццам, з прычыны таго, што ўнутры арміі не арганізоўваем падсобных камсамольскіх ячэяк, дык работа КСМ бмяжоўваецца толькі па-за арміяй. Нічога падобнага! Важна і трэба ўзмоцніць справу вярбоўкі кантактаў, адрасоў для парт. арганізацый і тут праверыць вынікі не па колькасьці папяровых адрасоў, а па колькасьці завербаваных ЖЫВЫХ САЛДАТ. Але няправільна будзе абмяжаваць галоўным чынам да гэтага работу КСМ у арміі. Камсамол павінен разгарнуць шырокую работу ўнутры арміі. Рашэньні КСМ што кожны камсамолец павінен мець сувязі, кантакты, прыяцеляў сярод салдат, частыя з імі гутаркі, вясьці агітацыю сярод салдат,—правесьці на дзеле, УЗЯЦЬ ІНІЦЫЯТЫВУ І АРГАНІЗАВАЦЬ СЕТКУ САЛДАЦКІХ НАРАД пісаць лісты да сваякоў і знаёмых і г. д.

Факты паказваюць, як барацьба салдат выбухае менавіта на грунце частковых патрабаваньняў,—справа КСМ дапамагчы партыі разгортваць гэтую барацьбу, узьняць яе на вышэйшы палітычны зровень, падняць найбольш масавую барацьбу супроць дэкрэтаў аб ваенна-палявых судох.

У сувязі з завастраючыміся клясавымі баямі ў горадзе і вёсцы, фашызм, накіроўваючы войска супроць бастуючых рабочых для «пацыфікацыі» ЗБ і ЗУ, прымушан уцягнуць армію ў гэтую барацьбу. ТАМУ АРГАНІЗАВАЦЬ БРАТАНЬНЕ ЗМАГАЮЧЫХСЯ РАБОЧЫХ І СЯЛЯН З САЛДАТАМІ зьяўляецца актуальнай задачай КСМ у справе раскладаньня фашыстоўскай арміі, заваяваньня салдат.

Цяпер, калі рэвалюцыйныя настроі ў арміі пашыраюцца, калі яна паказвае шчыліны, мы ўсімі сіламі павінны туды укліньвацца, расхістваць яе, памятаючы, што без заваяваньня арміі не правядзем пераможна надыходзячую рэвалюцыю, а ў часе імпэрыялістычнай вайны пасьпяховае пераатварэньне яе ў грамадзянскую.

# АРГАНІЗАЦЫЙНЫЯ ПЫТАНЬНІ

## УЗМОЦНІЦЬ УНУТРЫПАРТЫЙНУЮ ПРАЦУ! ПАЛЕПШЫЦЬ МЭТАДЫ КІРАЎНІЦТВА!

Добрая пастаноўка ўнутрыпартыйнай працы і правільнае кіраўніцтва партыйнай арганізацыяй зьяўляеца падставовым варункам зросту і падняцьця актыўнасьці партрганізацыі, пасьпяховасьці яе **масавае** працы. Слабая-ж унутрыпартыйная праца, дрэнныя мэтады кіраўніцтва, брак сыстэматычнае працы па ўзгадаваньню і вылучэньню партактыву ствараюць нездаровыя настроі ў арганізацыі, зьмяншаюць яе актыўнасьць, вядуць да аслабленьня масавае працы.

Яскравым прыкладам гэтага зьяўляецца Віленская арганізацыя, якая ў свой час, суадносна да сваіх сіл, разгортвала шырокую масавую работу, пасьпяхова кіравала шэрагам паважных баёў рабочае клясы, была здольнай да арганізацыі шэрагу буйных масавых выступленьняў. На гэтай базе Віленская арганізацыя вырасла ў 2-3 разы, палепшыла свой сацыяльны і нацыянальны склад. Але з прычыны адсутнасьці належнай увагі з боку кіраўніцтва да ўнутрыпартыйных пытань-

няў, з прычыны дрэнных мэтадаў кіраўніцтва (мэханічны падыход да вылучэньня актыву, прыпадковы падбор АК і РК, мэтады камандаваньня, брак калектыўнае працы АК і РК) актыўнасьць віленскае арганізацыі значна панізілася; значна пагоршылася таксама масавая праца

. На гэтым грунце ў Віленскай арганізацыі пачалі праяўляцца нездаровыя настроі, якія прабавалі выкарыстаць антыпартыйныя элемэнты для раскладу і падрыву партарганізацыі. Віленская арганізацыя знайшла ў сябе даволі сілы, каб суздром зьліквідаваць антыпартыйную вылазку, якая спаткалася з рашучым адпорам з боку ўсяе партарганізацыі. Але гэтага мала. Трэба зрабіць да канца вывады з гэтага уроку, зьліквідаваць прычыны застою ў разьвіцьці Віленскае партарганізацыі, дабіцца радыкальнай зьмены мэтадаў працы, дабіцца таго, каб сталічная Віленская арганізацыя зноў заняла першае мейсца сярод арганізацый КПЗБ. Пэўныя сымптомы аздараўленьня Віленскай арганізацыі ўжо намячаюцца.

Гэты ўрок павінен паслужыць ня толькі для аздараўленьня Віленскай арганізацыі; ён павінен быць папярэджаньнем для ўсіх партарганізацый, асабліва - ж для Беластоцкай.

Беластоцкая арганізацыя за апошняе паўгодзьдзе правяла значную масавую работу (забастоўка тэкстыльшчыкаў, шаўцоў, акцыя салідарнасьці са стачкай лесарубаў і інш.), але і Беластоцкая арганізацыя не змагла належна паставіць унутрыпартыйную работу. Беластоцкая арганізацыя, якая шпарка вырасла на грунце шырокіх масавых акцый, не палажыла патрэбнага націску на замацаваньне асягнутых арганізацыйных пасьпехаў, на ідэолёгічную закалку новых членаў партыі і іх актывізацыю. На выніку не прышлося доўга чакаць. Мы маем затармажэньне росту і аслабленьне актыўнасьці партарганізацыі, што асабліва яскрава праявілася ў апошняй акцыі тэкстыльшчыкаў.

Ясна, што ўнутрыпартыйнай працы ня можна разумець, як нешта адарванае ад масавае працы. Такая пастаноўка зьяўляецца скажэньнем лініі партыі, прыводзіць да выраджэньня партарганізацыі ў сэкту. Але таксама відавочна, што масавая праца ня можа быць з посьпехам разгорнута без сыстэматычнай няўпыннай унутрыпартыйнай працы, без сталай працы над падняцьцем ідэолёгічнага ўзроўню ўсіх членаў партыі, падняцьця іх палітычнай ініцыятывы, без стварэньня стойкіх і загартаваных партыйных кадраў. Нельга працаваць толькі праз пададзінокіх таварышоў, абыходзячы парткамітэты і ячэйкі. А гэтым часта грэшаць нашыя інструктары, якія нярэдка прабуюць тлумачыць свае мэтады камандаваньня слабасьцю актыву, яго павольным ростам, пасыўнасьцю камітэтаў. Такімі мэтадамі нельга кіравць партарганізацыямі, такімі мэтадамі мы ніколі не зможам вылучыць і ўзгадаваць новы актыў, падняць актыўнасьць і самадзейнасьць парткамітэтаў. Гэткія мэтады забіваюць ініцыятыву і актыўнасьць парткамітэтаў і ячэяк, могуць прывесьці да разбурэньня арганізацыяў. Гэта—дробнае дзелячаства, пагоня за часовымі эфэктамі, без пэрспэктывы на заўтрашні дзень.

Трэба ўзмоцніць унутрыпартыйную работу, удасканаліць мэтады кіраўніцтва. Трэба ў першую чаргу узмоцніць ідэолёгічную працу ў партыі. З гэтай мэтай трэба дакладна перапрацаваць пастановы XII пленума ІККІ, VI зьезду КПП, VI пленуму ЦК КПЗБ і праграму партыі. Трэба больш сачыць за ўзгадаваньнем членаў партыі, за іх стойкасьцю і вытрыманасьцю. Камуніст павінен быць прыкладам для другіх. Трэба, каб актыў і радавыя члены партыі прыймалі жывы ўдзел на ячэйках, фракцыях, камітэтах, сабраньнях і нарадах у абмяркаваньні ўсіх падставовых пытаньняў агульнапартыйнага і мясцовага значэньня.

Трэба з большай увагай падыходзіць да падбору членаў АК і РК, стварыць аўтарытэтныя ў партыйнай масе АК і РК, усемерна забясьпечыць іх самадзейнасьць і падняць іх палітычную ініцыятыву. Рашуча скончыць з мэтадамі камандаваньня. Не камандаваць арганізацыяй, а кіраваць ею, уплываць на яе, правільна прымяняць мэтады ўнутрыпартыйнай дэмакратыі ў рамах жорсткае конспірацыі падпольнага існаваньня, забясьпечыць правільную пастаноўку калектыўнай працы, мэтазгодны распадзел працы паміж членамі парткамітэтаў і ячэяк і правядзеньне жорсткага кантролю за сваячасовым выпаўненьнем пастановаў партыі—вось падставовыя варункі для падняцьця актыйнасьці партыі, для трывалага забясьпячэньня шырокай масавай работы.

## МАСАВЫ ЗБОР СРОДКАЎ — ПАЛІТЫЧНАЕ ВЫХАВАНЬНЕ МАС

Маем не мала яскравых фактаў, калі па заклiку партыі масы ідуць на падтрыманьне рэвалюцыйнай барацьбы ня толькі салідарнымі масавымі выступленьнямі, але і зборам матарыяльных сродкаў. Нядаўняя забастоўка белавескіх лесарубаў выклікала шырокую акцыю як у горадзе, так і на вёсцы збору сродкаў для падтрыманьня бастуючых. Сярод беластоцкіх рабочых было сабрана больш 1000 зл., сярод сялян дзесяткамі пудоў бульбы і інш. У часе агульнай забастоўкі беластоцкіх шаўцоў было сабрана з гарой 1.000 зл., масы ахвотна сабіраюць на Мопр, на прэсу і т. п.

**Рост рэвалюцыйнага руху патрабуе большых выдаткаў на арганізацыю гэтага руху.** Гэта трэба шырака паставіць перад масамі і побач з барацьбой за штодзённыя дамаганьні ўскладаць на іх рэвалюцыйны абавязак — матарыяльнай дапамогі сваёй партыі, на фонд прэсы, на Мопр і т. п. Гэта будзе ў масах замацоўваць, паглыбляць палітычную сьвядомасьць. Масы гэта зразумеюць, масы падтрымаюць, толькі партарганізацыі павінны **праявіць ініцыятыву і настойлівасьць.**

Адначасна трэба ўвесьці як сыстэму— аплату членскіх узносаў як у партыі, так і ў рабоча-сялянскіх масавых арганізацыях, наладзіць праверку паступленьняў узносаў і кантроль выдаткаваньня. Да гэтага часу вельмі дрэнна стаяла адчотнасьць масавых збораў і членскіх узносаў.

Справаздачы з месц кажуць, што кожная ячэйка, кожная партарганізацыя маюць паступленьні розных сродкаў (на правядзеньне той ці іншай кампаніі, на Мопр і т. п.). Аднак, гэта часта-густа не паддаецца гласнасьці і гэта дрэнна, памылкова. Трэба **наладзіць шырокую гласную адчотнасьць перад масамі** ў масавай прэсе, на сходах, мітынгах, тлумачыць неабходнасьць і значэньне такіх збораў, каб масы бачылі ход і карысьць сваіх збораў і ахвяр ды былі ўпэўнены, што ўсё ідзе па назначэньню. Толькі пры такіх умовах можна разгарнуць шырокую акцыю матарыяльнай дапамогі рэвалюцыйнаму руху.

У то-ж час фашызм насільствам і абдурваньнем выкалачвае з рабочых, сялян і служачых сродкі на ваенную падрыхтоўку (ЛОП, Стралец) на нібы-та беспрацоўных, на пацярпеўшых ад стыхійных злыбед і інш. Неабходна заклікаць масы не плаціць ніякіх узносаў, выклікаў, супроцьстаўляць сбор на Мопр, на рэвалюцыйную прэсу, зрываць фашыстоўскія мітынгі, лекцыі, шырока тлумачыць сутнасьць розных кампаніяў («дзень ошчэндносьці», «тыдзень лётніцтва» і т. п.), якія маюць на мэце выкачваць сродкі з працоўных мас, сеюць ілюзіі барацьбы з крызысам і нэндзай ды падрыхтоўваюць вайну.

## „ЗАКЛІК VI ПЛЕНУМУ ЦК КПЗБ" ДАВЕСЬЦІ ДА ВЕДАМА КОЖНАГА ПРАЦОЎНАГА

**VI пленум ЦК КПЗБ зьвярнуўся да шырокіх працоўных мас з асаблівым заклікам, у якім у папулярнай, простай форме растлумачваецца на ўсіх мовах мас ЗБ (беларускай, украінскай, яўрэйскай, польскай, літоўскай) праграмма партыі і характар рэвалюцыі на ЗБ. Кожная ячэйка павінна азнаёміцца і ўсьвядоміць тыя праблемы і задачы, аб якіх гаворыцца ў «Заклiку». Задача ўсіх партарганізацый і кожнага партыйца пасобку давесьці «Заклік» да ведама самых шырокіх мас, распаўсюдзіць нават у самыя глухія заняпалыя куткі, сярод войску, чляпаў варожых арганізацыяў, старацца наладзіць калектыўную чытку, развогніць палеміку і т.л.**

**Пашырэньне і азнаямленьне «Заклiку» нельга абмежаваць аднэй кампаніяй, а павінна стаць штодзённай сыстэматычнай працай.**

**Неабходна наладзіць праверку з боку кожнай партарганізацыі, як пашыраецца «Заклік», як ён прынімаецца масамі, ці ўсюды дайшоў трэбаваць дадатковай прысылкі.**

## ЧЫТАЙЦЕ І ПАШЫРАЙЦЕ!

### ПАРТЫЙНЫЯ ВЫДАНЬНІ:

**«Бальшавік»** № 1 1933 г. артыкул Сталіна, артыкулы аб XII пленуме ВККІ, VI пленуме ЦК КПЗБ, аб характары рэвалюцыі на ЗБ, супроць вайны і т. п.).

**«Куймы Бронь»** № 8 і 9.

**«Чырвоны Сьцяг»** № 8.

**«Камфсфон»** № 6.

**«Малады камуніст»** № 1 (45) на бел. мове. Да кампаніі «Трох Л.»

**«Што чуваць у СССР»**—сшытак першы—цыфры, факты і ацэнка сацыялістычнай перабудовы сельскай гаспадаркі. Выходзе штомесяц.

**«Заклік»** ад VI пленуму ЦК КПЗБ да ўсіх працоўных Заходняй Беларусі на польскай, беларускай, яўрэйскай і ўкраінскай мове.

**Рашэньні** VI пленуму і VI Зьезду.

**Канспекты** для вывучэньня на ячэйках рашэньняў VI Зьезду і VI пленуму.

### НАЦ.-ВЫЗВАЛЕНЧЫЯ ВЫДАНЬНІ І ІНШ.

**«Барацьба»** № 3. Адрас рэдакцыі: Hans Winkler, Berlin S14, Schliessfach 16.

**«Барыкады»** № 2, літоўская газэта, Вільня.

**«Рэзэрвіста»** Вільня.

**«Чырвоная дапамога»** аб 1-м кангрэсе МОПР'у, аб пацыфікацыі і даразных судох.